УДК 908(476.6-21 Слонім)
ББК 26.89(4Беи)
Ч11

Кніга выдадзена дзякуючы фінансавай падтрымцы земляка *Аляксандра Міско*.

**Чыгрын, С.**

**Ч11** Слонімскі буквар : даведнік па горадзе Слоніме і раёне / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2013. — 64 с.

ISBN 978-985-7057-42-9.

Гэтае выданне ўяўляе сабой своеасаблівы даведнік па горадзе Слоніме і раёне, дзе арганічна пераплятаюцца мінулае і сучаснае Слонімшчыны.

Кніга будзе цікавай усім тым, хто захапляецца гісторыяй і краязнаўствам сваёй Бацькаўшчыны, але найперш школьнікам і іх бацькам, настаўнікам і турыстам.

**УДК 908(476.6-21 Слонім)**
**ББК 26.89(4Беи)**

**ISBN 978-985-7057-42-9**

## Ад аўтара

Дарагія сябры!

«Слонімскі буквар», які вы трымаеце ў руках, напісаны дзеля таго, каб вам прасцей было вывучыць гісторыю слонімскай зямлі. Назвы артыкулаў у ім размешчаны па парадку, як літары ў алфавіце, ад А да Я, акрамя літар й, ў, ы, ь. У артыкулах распавядаецца шмат цікавага пра гісторыю Слоніма, пра помнікі культуры, людзей, прадпрыемствы, вуліцы, навучальныя ўстановы Слонімшчыны і г. д. Аўтар стараўся напісаць артыкулы вельмі проста і зразумела, каб яны лёгка чыталіся і запаміналіся. Кожны артыкул у кнізе ілюстраваны старымі і сучаснымі здымкамі. Каб вы не толькі прачыталі тэкст, але яшчэ ўбачылі на здымках тое, аб чым распавядаў аўтар кнігі.

Вельмі спадзяёмся, што пасля прачытання «Слонімскага буквара» вы шмат новага і цікавага даведаецеся пра старажытны горад над Шчарай, а таксама палюбіце Слонім яшчэ мацней. Вядома ж, вы і самі можаце дапоўніць гэты буквар нечым новым, раней не вядомым і цікавым. Аўтар будзе вам вельмі ўдзячны за прапановы, адкрыцці, знаходкі, звязаныя з гісторыяй Слонімшчыны. Калі яны ў вас ёсць, то пішыце на адрас: chigrinik@yandex.ru.

# Аа

## Альбярцін

Альбярцін — адзін з найпрыгажэйшых мікраараёнаў Слоніма. А ў мінулых стагоддзях Альбярцін быў маёнткам, мястэчкам, пасёлкам. Сёння слонімскі мікрараён Альбярцін вядомы сваім кардонна-папяровым заводам — буйным прадпрыемствам Беларусі.

Сярод слонімцаў бытуе легенда, што неяк вяртаўся пан Пуслоўскі з лецішча ў свой маёнтак у Альбярцін. У дарозе яго застала навальніца. Фаэтон Пуслоўскага спыніўся каля самага каменя-валуна. У гэты момант моцна стукнула маланка і трапіла проста ў камень, які ад удару раскалоўся на дзве часткі.

Два тыдні ў маёнтку Пуслоўскіх гарэлі свечкі ў знак таго, што камень выратаваў пана. Спадар Пуслоўскі пасля загадаў паставіць на камені крыж.

Аднойчы слугі Пуслоўскага спрабавалі нават даведацца, на колькі метраў валун знаходзіцца ў зямлі.





В. Ваньковіч. Войцех Пуслоўскі. Алей. Літоўскі мастацкі музей

Яны пракапалі ўглыб на некалькі метраў зямлю, але асновы так і не знайшлі. Пан загадаў спыніць гэту работу і засыпаць яму. Што слугі і зрабілі.

Сёння людзі кажуць, што некалі ў шчыліну расколатага каменя магла ўлезці толькі рука. А цяпер шчыліна стала шырынёй больш за метр. Мабыць, быў на камені і крыж, бо зверху яго ёсць паглыбленне.

Альбярцін — як памешчыцкая сядзіба, так і сама назва — з'явіўся толькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Да гэтага часу быў там фальварак, якія належаў да Вялікіх Шылавічаў, дзе знаходзіўся першапачатковы двор.

Пра сам Альбярцін захаваліся звесткі, што так назваў свой маёнтак Войцех Пуслоўскі ў гонар сына Альберта. Але сына з імем Альберт у Пуслоўскага не было. Ён меў чатырох сыноў — Уладзіслава (1801–1859), Адама Цітуса (1803–1854), Францішка Ксаверыя (1806–1874), Вандаліна (1814–1884) і дзвюх дачок — Генафему і Марту. Па іншых крыніцах, Войцех Пуслоўскі меў пяцярых сыноў. Але даследчыкі, магчыма, блытаюць, бо лічаць, што Францішак — гэта адзін сын, а Ксаверы — другі.

Дзякуючы Войцеху Пуслоўскаму, у першай палове XIX стагоддзя ў маёнтку Альбярцін былі пабудаваныя палац, флігель, стайня, закладзены парк, было адкрыта некалькі прадпрыемстваў.

Усе войны апошніх двух стагоддзяў не міналі Альбярцін. 19 ліпеня 1812 года праз Альбярцін адступала другая руская армія пад кіраўніцтвам Пятра Баграціёна. Пасля яе адступлення ў палацы Пуслоўскіх месціўся штаб 12-га аўстрыйскага корпуса генерала Шварцэнберга. Войцех Пуслоўскі і яго сям'я падтрымлівалі французскую армію Напалеона Банапарта, які паабяцаў аднавіць Вялікае Княства Літоўскае.

Праз 18 гадоў Войцех Пуслоўскі разам са сваімі сынамі і ўнукамі актыўна падтрымае шляхецкае паўстанне ў Беларусі і Літве ў працяг паўстання ў Польшчы за адра-



Былая стайня Пуслоўскіх. Сучасны здымак

джэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Сын Войцеха Пуслоўскага — Цітус Пуслоўскі створыць паўстанцкі атрад колькасцю каля 1000 чалавек. У атрадзе Цітуса было нямала рабочых і тэхнікаў з бацькавай суконнай фабрыкі. У атрадзе Міхала Валовіча найбольш было сялян. Сродкі для паўстанцаў даваў Войцех Пуслоўскі.

Пасля смерці Войцеха Пуслоўскага ўласнікамі Альбярціна сталі яго сыны і ўнукі. Але галоўны гаспадар яшчэ пры жыцці пачаў актыўна наладжваць дзейнасць прамысловых прадпрыемстваў.

Самымі цяжкімі для Уладзіслава Пуслоўскага і Альбярціна былі Першая сусветная і польска-савецкая войны. Першая сусветная вайна прымусіла Пуслоўскіх вывезці найбольш каштоўныя рэчы ў Маскву. Для гэтага спатрэбілася чатыры з паловай вагоны. Пасля вайны з вывезеных вагонаў назад удалося вярнуць толькі паўвагона, астатнія бясследна зніклі.

Пасля Першай сусветнай вайны з бежанства з Расіі пацiху пачалі вяртацца людзі ў родны Альбярцін. Толькі не ўсе. Многія загінулі ў дарозе і ў далёкай галоднай Расіі, некаторыя там засталіся жыць. Але большасць з іх дабіралася дадому. І тыя, хто вяртаўся ў Альбярцін, зноў на працу прыходзілі да Уладзіслава Пуслоўскага. І ён іх браў, даваў не толькі працу, але і жыллё, хатнюю жыўнасць, трохі зямлі. Уладзіслаў Пуслоўскі быў шчырым, добрым, простым чалавекам. Дапамагаў ён фінансамі і сваім сваякам, даваў ім каштоўныя парады, найперш звязаныя з зямлёй і лесам…

У самым пачатку верасня 1939 года Уладзіслаў Пуслоўскі з сям’ёй назаўсёды пакінуў Альбярцін. Месцам жыхарства ён выбраў Парыж. У пажылым веку (пражыў 93 гады) спадар Пуслоўскі захапляўся гі-





Палац Пуслоўскіх у Альбярціне. Малюнак Напалеона Орды. 1865 г.

старычнымі даследаваннямі. Ён быў жанаты на Хрысціне Марыі Пігнатэлі д'Арагон, прадстаўніцы італьянска-іспанскага княжацкага роду. Яны мелі сыноў — Францішка і Ксаверыя — і дачку Марыю (Хрысціну). Францішак з 1939 года жыў у ЗША, працаваў у Польскім інстытуце ў Нью-Ёрку, а Ксаверый пасяліўся ў Іспаніі. Цяпер нашчадкі Пуслоўскіх жывуць у многіх краінах свету. І пра Альбярцін яны ведаюць з успамінаў сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў, а бачаць яго толькі на старых сямейных фотаздымках.

# Бб

## Бібліятэкі

Першыя бібліятэкі ў горадзе Слоніме з'явіліся ў XVI–XVII стагоддзях. Гэта былі прыватныя кнігазборы Сапегаў. Існавалі на Слонімшчыне і вялікія прыватныя бібліятэкі ў Агінскіх, Пуслоўскіх, Слізняў, Чапскіх. Шмат добрых і багатых бібліятэк было пры храмах, народных вучылішчах, школах.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1939 годзе арганізавалася цэнтральная бібліятэка горада Слоніма. У яе фондзе знаходзіліся кнігі больш чым на 20 мовах.

У час Другой сусветнай вайны загінулі амаль усе кнігі, а памяшканне было разбурана. І толькі дзякуючы краязнаўцу Язэпу Стаброўскаму і паэту Сяргею Новіку-Пеюну частку кніг удалося выратаваць.

Пасля вызвалення горада Слоніма ад гітлераўскіх захопнікаў арганізаваць новую цэнтральную бібліятэку было даручана Марыі Капітанчык. Пад бібліятэку выдзелілі добрае памяшканне на вуліцы Пушкіна, 44. Марыя Міхайлаўна з бібліятэкарамі пачала работу па камплектаванні фонду.


Слонімская раённая цэнтральная бібліятэка імя Якуба Коласа




У чытальнай зале Слонімскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Якуба Коласа



За 1944 год была апрацавана ўся літаратура, зроблены неабходны рамонт, падрыхтаваны стэлажы. Пры бібліятэцы адкрылі чытальную залу, паслугамі якой карысталіся савецкія афіцэры, салдаты з фронту, мясцовае насельніцтва. У 1945 годзе бібліятэку наведалі 454 чытачы. Тэматычныя вечарыны, канферэнцыі, вечары-сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі спрыялі прываблiванню чытачоў у бібліятэку і ўмацаванню яе значнасці.

Сёння на Слонімшчыне налічваецца 27 бібліятэк. Гэта цэнтральная раённая бібліятэка імя Якуба Коласа, 7 гарадскіх (з іх 2 дзіцячыя) і 19 сельскіх бібліятэк-філіялаў. Агульны кніжны фонд складае звыш 600 000 экзэмпляраў. Штогод паслугамі бібліятэк карыстаюцца больш за 33 000 чытачоў, ім





Юныя чытачы прыйшлі па кнігі. Канец XX ст.




Чытачы Купалаўскай бібліятэкі ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна. 1965 г.

выдаецца звыш 600 000 экзэмпляраў выданняў.

По выніках работы за 2012 год Слонімская цэнтральная бібліятэчная сістэма заняла першае месца ў Гродзенскай вобласці і ўзнагароджана Дыпломам першай ступені абласнога Упраўлення культуры. Ганаровай граматай Упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама была адзначана і дырэктар ЦБС Ларыса Рэпінская.

Усе бібліятэкі Слоніма шчыра запрашаюць да сябе чытачоў — маленькіх і дарослых жыхароў горада. Кнігі, газеты, часопісы можна чытаць у светлых чытальных залах, а можна ўзяць іх дамоў на

некаторы час. А яшчэ бібліятэкі Слоніма сталі сапраўднымі культурнымі цэнтрамі. Тут кожны месяц праводзяцца сустрэчы з літаратарамі, адбываюцца прэзентацыі новых кніг, арганізуюцца выставы мастакоў, літаратурныя конкурсы і віктарыны, а таксама музычныя вечары.

# Вв

## Вуліцы

Вуліцы Слоніма — гэта ягонае аблічча. Яны павінны і адпавядаць свайму часу, і захоўваць гістарычнае аблічча горада. На вялікі жаль, сёння не адпавядаюць часу многія назвы вуліц Слоніма, якія абыякава пераймяноўваліся, а таксама мянялі свой выгляд. Да сённяшняга часу няма ў старажытным горадзе над Шчарай вуліцы, якая б стала візітнай карткай Слоніма, як, напрыклад, Брадвей, Пікадзілі, Неўскі праспект, Арбат і г. д. Многія могуць падумаць: ну і параўнаў — Брадвей з Першамайскай у Слоніме. А чаму б і не? Няхай бы і ў нас быў свой маленькі Арбат у цэнтры горада — з фантанамі, прыгожымі чыстымі кавярнямі, барамі, рэстаранамі, з культурным абслугоўваннем, з музыкай Міхала Агінскага. І не гойсалі б машыны праз гістарычны цэнтр горада, а аб'язджалі б яго. Інакш мы хутка знішчым і тое, што пакуль уцалела і захавалася ад войнаў і акупантаў. Быў час, калі творчая інтэлігенцыя Слонімшчыны моцна спрачалася наконт перайменавання гістарычных назваў нашых вуліц. Некаторыя назвы вуліц у канцы 1990-х гадоў удалося выратаваць ад мясцовага манкурцтва. Вуліцы Ружанскай вярнулі яе гістарычную назву пасля Патрыса Лумумбы — афрыканскага негра. Вуліца Энгельса стала называцца Опернай. Плошчы Горкага надалі імя славутага слонімскага старосты Льва Сапегі. Першы праспект у Слоніме стаў называцца праспектам Незалежнасці. А новая вуліца побач з гэтым праспектам стала насіць імя Францішка Скарыны. Хоць і не поўнасцю, але ўдалося вярнуць старую назву Студэнцкай вуліцы (палова ранейшай Студэнцкай вуліцы цяпер носіць імя Хлюпіна — палкоўніка, які ў гады вайны загінуў у танку каля Слоніма). Але многіх гістарычных назваў вуліц Слоніма так вярнуць і не ўдалося. Найперш тых, якія ў 1950–1980-х гадах мясцовымі чыноўнікамі-камуністамі па-нахабнаму пераймяноўваліся. З'явіліся плошча Леніна, вуліцы К. Маркса, М. Тарэза, Войкава, Камуністычная, Савецкая, Камсамольская і г. д. Вось якія назвы плошчаў, вуліц і завулкаў (паводле гісторыка Васіля Супруна) былі ў Слоніме ў 1933 годзе.

Вуліцы: Абозная, бульвар Агінскага, Агародная, Акцызная, Андрэеўская, Альбярцінская, Баранавіцкая,





Вуліца Бернардзінская. Пачатак XX ст.




Вуліца Панятоўскага. Пачатак XX ст.

Берагавая, Бернардзінская, Бэма, Бэрка Ёселевіча, Глухая, Гранічная, Грыбаўская, Гандлёвая, пляц Вольнасці, Віленская, Выганавая, Вясёлая, Доўгая, Жабінка, Жвіркі і Вігуры, Жыровіцкая, Жыромская, Загарадная, Замкавая, Зялёная, Касцельная, Касцюшкі, 11-га Лістапада, пляц Сапегі, Каляёвая, Магістрацкая, Манапольная, 3-га Мая, Маставая, Міцкевіча, Нарушэвіча, Оперная, Палявая, Папярэчная, князя Панятоўскага, Правіянтовая, Пераскок, маршалка Пілсудскага, Рыбацкая, Рэзкі, Сельская, Сенная, Славацкага, Студэнцкая, Сянкевіча, Татарская, Турэмная, Уланская, Школьная, Школьны двор, Шасэйная, Астатняя, Падгорная, плошча Гандлёвая, Ружанская.

Завулкі: Андрэеўскі, Аптэчны, Багажны, Вузкі, Выганавы, Зялёны,







Выгляд з боку вуліцы Гандлёвай. Пачатак XX ст.




Ружанская вуліца. Пачатак XX ст.

Ганчарны, Драўляны, Кароткі, Кашаровы, Кафлёвы, Круты, Крывы, Бляхарскі, Малы, 3-га Мая, Мяшчанскі, Міхайлоўскі, Палявы, Новы, князя Панятоўскага, Ружанскі, Рэзніцкі, Слясарскі, Татарскі, Турэмны, Цесны, Школьны, Чыгуначны. А цяпер давайце адсочым, як у пасляваенны час у Слоніме пераймяноўваліся вуліцы, плошчы і завулкі, пачынаючы з 1950-х гадоў. Альбярцінская вуліца стала вуліцай Гагарына, Жабінка — П. Марозава, Доўгая — Касманаўтаў, Глухая — Калініна, Абозавая — Астроўскага, Славацкага і Мангольская — Мічурына, Правіянтовая — Вясёлая, Ліпавая — Мірошніка, Скубішоўка — Катоўскага, Малы завулак — 8-га Сакавіка, Падгорная — Сінічкіна, Жыровіцкая — Марыса Тарэза, Завулак Міру — завулак Дастаеўскага, Бернардзінская — Банкавая —






Так выглядала вуліца Маставая (цяпер Янкі Купалы) у Слоніме да 1941 г.

В. Крайняга, Крывы завулак — Камуністычная, Шырокая — Гнедаша, Міхайлаўскі завулак — Някрасава, Гандлёвая плошча — плошча Леніна, Жыромская — Даватара, Рэзкі — завулак Уз'яднання, Галоўная — Карбышава, Школьны двор — Савецкая, Анурсеўская — 3-га Мая — Чырвонаармейская, Рыбацкая і Мокры завулак — К. Давідзюк, Замкавая — Камсамольская, Татарская — Кірава і г. д. Гэтымі савецка-камуністычнымі назвамі парушылася славутая гісторыя вуліц нашага старажытнага горада. З сённяшніх назваў нам здаецца, што гісторыя слонімскіх вуліц пачынаецца не раней як з 1945 года. Але гэта далёка не так. Яшчэ ў 1857 годзе ў Слоніме налічвалася 14 вуліц, у тым ліку 10 брукаваных, і дзве плошчы без назваў. Найбольш добраўпарадкаванымі былі Рынкавая, Маставая, Панасоўская, Ружанская, Жыровіцкая, Бернардзінская, Замкавая, Рыбацкая і Татарская вуліцы. Дарэчы, Татарская вуліца ў Слоніме існуе з 1717 года, а ў 1952 годзе яе перайменавалі ў вуліцу Кірава. У 1890 годзе ў Слоніме ўжо было 35 вуліц. Напрыклад, вуліца Агінскага існавала яшчэ ў другой палове XVIII стагоддзя. Але, бадай, адной з самых старажытных вуліц у нашым горадзе лічыцца вуліца Васі Крайняга (першапачаткова яна называлася Спаскай, пасля Бернардзінскай, потым Банкаўскай). Вуліца існавала ўжо ў XVII стагоддзі. Калгасная вуліца мела некалі назву Французскі тракт (XIX ст.), а вуліца Пушкіна вядзе свой пачатак таксама з XVII стагоддзя як Панасоўская вуліца. У сярэдзіне 1930-х гадоў у Слоніме налічвалася ўжо 65 вуліц, 32 завулкі і 3 плошчы. Лёс многіх вуліц быў трагічны. Але вуліцы, як і людзі, — адны паміраюць, іншыя нараджаюцца. Сёння ў Слоніме налічваецца больш за 200 вуліц, завулкаў і плошчаў. Ёсць адзін

праспект. А нядаўна новай вуліцы, якая знаходзіцца побач з вуліцай Францыска Скарыны, нададзена імя Еўфрасінні Полацкай. Добрае суседства!

# Гг

## Герб

Старажытны гарадскі герб заўсёды выконваў ролю «візітнай карткі» горада. І гэтая яго функцыя не страціла прызначэння і сёння. У XVI–XVII стагоддзях на Беларусі надаваліся гарадскія гербы, звычайна адначасова з наданнем гораду магдэбургскага права. Выява гарадскога герба размяшчалася на пячатцы горада, на будынку ратушы або магістрата. Мае і Слонім свой герб, які быў яму нададзены 4 студзеня 1561 года каралём Жыгімонтам па хадайніцтву Льва Сапегі. Герб адлюстроўвае яго прыналежнасць канцлеру Вялікага Княства Літоўскага Льву Сапегу. На гербе Слоніма адлюстраваны ў блакітным полі залаты леў на задніх лапах, які трымае сярэбраную стралу ў выглядзе падвойнага крыжа.

Свой герб маюць і Жыровічы. Ён ужываецца з XVII стагоддзя. Герб Жыровічаў уяўляе сабой у блакітным полі выяву двух мужчынскіх постацей: правая постаць стаіць на каленях, левая трымае ў працягнутых руках кнігу.

# Дд

## Друкарня

Першая друкарня на Слонімшчыне з'явілася ў Жыровічах у 1613 годзе, калі там быў заснаваны ўніяцкі кляштар. Першым настаяцелем



Герб Слоніма, 1792 г.




Пячатка Слоніма, 1911 г.



Сучасны герб Слоніма



Слонімская друкарня

яго быў Ясафат Кунцэвіч. Пры кляштары працавала друкарня, якая выпускала рэлігійныя творы.

У Слоніме часоў Льва Сапегі таксама існавала адна з самых вялікіх у Вялікім Княстве Літоўскім друкарняў, дзе, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, набіраўся вядомы на ўсю Еўропу Статут Вялікага Княства Літоўскага.

Працавала друкарня і ў канцы XVIII стагоддзя, калі ўладальнікам Слоніма быў Міхал Казімір Агінскі. Яна знаходзілася ў палацы Агінскага і працавала для патрэб мясцовай оперы.

У 1920–1930-х гадах у Слоніме дзейнічалі некалькі друкарняў. Гэта былі прыватныя друкарні — кааператыўная, хрысціянская, Ельяна і Лунянскага.

Калі на Слонімшчыну ў верасні 1939 года прыйшла Чырвоная Армія, усе прыватныя друкарні савецкая ўлада закрыла і з іх стварыла адну дзяржаўную друкарню, дзе друкавалася раённая газета «Вольная праца» (цяпер — «Слонімскі веснік»), розныя плакаты, дакументы.

Сёння ў Слоніме таксама існуе добрая друкарня на вуліцы Хлюпіна. Яна вырабляе самую разнастайную паліграфічную прадукцыю: кардонную ўпакоўку, бланачную прадукцыю і бухгалтарскія кнігі, шматколерныя этыкеткі на імпартнай паперы, друкуе газеты, кнігі, часопісы, буклеты, праспекты, папкі, блакноты, граматы, візітоўкі, школьныя сшыткі для малявання, запісныя кніжкі і іншыя тавары народнага спажывання.

# Ее

## Евангелле Жыровіцкае

Да сярэдзіны XIX стагоддзя ў Жыровіцкім манастыры зберагалася Жыровіцкае Евангелле, вядомае таксама пад назвай «Евангелле Сапегі». Яно было створана клопатамі Льва Сапегі (1557–1633) — канцлера Вялікага Княства Літоўскага. Леў Сапега падараваў «Жыровіцкае Евангелле» Жыровічам 22 жніўня 1616 года. Падарунак быў уручаны на дзень асвячэння Успенскага сабора.

Рукапіс Жыровіцкага Евангелля складаецца з 404 лістоў, вельмі багата ўпрыгожаны залатымі застаўкамі, мініяцюрамі, арнаментамі. Адчуваецца ўплыў візантыйскай мастацкай традыцыі. На 376-м і 377-м лістах канцлер Леў Сапега зрабіў запіс аб ахвяраванні манастыру вялікай часткі яго Шылавіцкага маёнтка (на левым беразе Шчары), багатай царкоўнай рызы, срэбнай чашы і дыскаса, царкоўнага адзення. Надпіс быў зроблены на беларускай мове таго часу.

Ёсць у кнізе і пацвярджальны запіс Багданы Мялежкавай Пржэцлаўскай ад 1620 года на фальварак у Жыровічах.

Сёння Жыровіцкае Евангелле зберагаецца ў Навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Літвы. І пра яго вяртанне на радзіму, як сказалі ў Жыровіцкім манастыры, ніхто ніякіх перамоў не вядзе.



Жыровіцкае Евангелле

 

# Ёё

## Ёлка

Штогод у снежні ў цэнтры Слоніма ў скверы на Першамайскай вуліцы перад каталіцкімі Калядамі з'яўляецца навагодняя ёлка. Слонімцы яе вельмі чакаюць. У навагоднюю ноч каля ёлкі выступаюць артысты, праходзяць розныя святочныя гулянні з Дзедам Марозам і Снягуркай.

Каля гарадской ёлкі слонімцы і госці горада вельмі любяць фатаграфавацца, асабліва здымаць каля ёлкі дзяцей.




Ёлка ў цэнтры Слоніма. 2012 г.

Ставіць ёлку ў цэнтры горада стала традыцыяй. І з кожным годам яна выглядае ўсё прыгажэй і прыгажэй. Лясная прыгажуня расквечана рознымі гірляндамі, агнямі і феерверкамі. Пасля старога Новага года ёлку камунальныя службы здымаюць, а гэта азначае, што навагоднія і калядныя святы прайшлі.

# Жж

## Жыровічы

Пра Жыровічы існуе некалькі паданняў. Адно з іх распавядае, што на месцы сённяшніх Жыровічаў была вялікая пушча. Гэтай пушчай валодаў нейкі паганец па прозвішчы Жыр. Ён лавіў на лясных сцежках і дарогах людзей і браў у палон. У палоне яны будавалі хаты і жылі пад наглядам паганца. Шмат ім было злоўлена люду. Але Жыр хутка памёр. І людзі сталі вольнымі, а мястэчка назвалі Жыровічы.

Другое паданне нагадвае, што калісьці даўным-даўно на месцы манастыра быў дрымучы лес. Як і ўсё наваколле вёскі Жыровічы, належаў ён падскарбію Вялікага Княства Літоўскага Аляксандру Солтану. Аднойчы летнім днём 1470 года мясцовыя праваслаўныя вернікі пасвілі ў лесе кароў. Непрыкметна зайшлі яны туды, дзе ніколі раней не былі. І ў лясным паўзмроку заўважылі ў галінах

лясной грушы-дзічкі нязвыклае дзіўнае святло. Яны спусціліся з пагорка на бераг ручая і здзівіліся яшчэ больш. На дрэве, у зялёналістым атачэнні, як у шатах, цудадзейным святлом праменіўся абраз Божай Маці з ейным святым сынам на правай руцэ. Пастухі знялі абраз з дрэва. Быў ён выразаны з каштоўнага каменю яшмы, невялікі, змяшчаўся на далоні рукі. Меў авальную форму.

Усцешаныя незвычайнай знаходкай, пастухі аднеслі абраз Солтану. Той не надаў значэння расказам пастухоў і схаваў яго ў куфэрак. Калі ж на наступны дзень захацеў паказаць лясную знаходку гасцям, абраза ў куфэрку не аказалася. Не адчуваючы нічога благога да служылых людзей, гаспадар маёнтка, аднак, моцна здзівіўся гэткаму здарэнню.



Герб Жыровічаў



Жыровічы. Пачатак XX ст. Малюнак невядомага аўтара



Успенскі сабор у Жыровічах

А праз некалькі дзён пастухі знайшлі зніклы абраз у тым самым лесе, над тым самым ручаём і на той жа дзікай грушы. Яны зноў знялі яго і зноў перадалі свайму гаспадару. Аляксандр Солтан, усвядоміўшы незвычайнасць падзеі, сам пайшоў на месца з'яўлення абраза. Там ён даў абяцанне збудаваць у гонар дзівоснай праявы царкву. Неўзабаве тут паўстаў драўляны праваслаўны храм, галоўны алтар якога знаходзіўся акурат на месцы, дзе расла лясная груша. А пазней узнікла там паселішча Жыровічы.

Першыя пісьмовыя згадкі пра Жыровічы датуюцца 1493–1495 гадамі, калі вялікі князь Казімір прадаў паселішча падскарбію вялікаму Аляксандру Солтану. Новы ўладальнік збудаваў царкву на месцы, дзе, паводле легенды, у 1470 з'явіўся абраз Маці Божай. Каля царквы пачало фарміравацца паселішча.

Згодна з адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформай у 1565–1566 гадах Жыровічы ўвайшлі ў склад Слонімскага павета, дзе вельмі шырока пачалі праводзіцца кірмашы. Пад 1587 годам упершыню згадваецца Жыровіцкі манастыр. У 1624 годзе Жыровічы атрымалі статус мястэчка і кароль і вялікі князь Ян Казімір надаў паселішчу магдэбургскае права (самакіраванне). Неўзабаве Жыровічы сталі буйным гандлёвым цэнтрам, які карыстаўся ўласным гербам: у блакітным полі выява дзвюх мужчынскіх постацяў — правая стаіць на каленях, левая трымае ў працягнутых руках кнігу.

Падчас Трынаццацігадовай вайны ў 1655 годзе казацкія налёты спалілі мястэчка і манастыр. Прайшоў час, і 19 верасня 1730 года ў Жыровічах адбылася ўрачыстая каранацыя цудоўнага абраза Маці Божай.





Карону, упрыгожаную каштоўнымі камянямі, ахвяравала княгіня Ганна Радзівіл. Абраз захоўваўся пад шклом у залачоных шатах. У выніку трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Жыровічы апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. У 1880-я гады ў мястэчку дзейнічалі тры царквы, працавалі духоўная і жаночая народная вучэльні, тры крамы, тры шынкі, рэгулярна праводзіліся кірмашы.

У Першую сусветную вайну Жыровічы занялі нямецкія войскі. У 1919–1920 гадах мястэчка пераходзіла з рук у рукі — ад бальшавікоў да польскага войска. Згодна з Рыжскай мірнай дамовай (1921) Жыровічы апынуліся ў складзе міжваеннай Польскай Рэспублікі, дзе сталі цэнтрам гміны Слонімскага павета Навагрудскага ваяводства. А з 1939 года Жыровічы — наша беларуская вёска. Сёння яна славіцца Свята-Успенскім манастыром, Мінскімі духоўнымі семінарыяй і акадэміяй, якія там месцяцца, аграрна-тэхнічным каледжам і іншымі ўстановамі. У Жыровічах пражывае каля трох тысяч жыхароў.

# Зз

## Замак

Драўляны замак у Слоніме, паводле пісьмовых сведчанняў, існаваў. Але дакладных звестак, дзе ён знаходзіўся, няма. Назва старажытнай Замкавай вуліцы і план горада 1795 года сведчаць, што замак у Слоніме, як і старажытны цэнтр горада, да XVI стагоддзя знаходзіўся на правабярэжжы ракі Шчары, на так званым Замосці. Ён месціўся паміж руслам ракі Шчары і яе невялікім прытокам Гарадзянкай.



Слонім. Малюнак. Пачатак XIX ст.







Слонімскі замак. Малюнак Васіля Супруна

Але драўляны замак быў амаль знішчаны мангола-татарамі ў 1241 годзе. Хаця поўнай інфармацыі пра гэта няма. Бо вядома, што з 1248 года ў Слонімскім замку пачаў княжыць старэйшы сын Міндоўга Войшалк. А сам Міндоўг быў князем у Наваградку. Верхні замак у Слоніме быў узведзены ажно ў 1520 годзе пры слонімскім старосце Яне Радзівілу на ўзвышшы левага берага Шчары, амаль побач з былым старажытным гарадзішчам. З пераносам замкавых збудаванняў на другі бераг ракі сюды перамясціўся і цэнтр горада. З цягам часу там значна ажывілася будаўніцтва горада.

# Іі

## Інфармацыя

Напачатку XXI стагоддзя ўсю інфармацыю слонімцы даведваюцца з Інтэрнэту, з экранаў тэлевізараў, з радыё, газет і часопісаў. У Слоніме сёння выдаюцца дзве газеты: «Слонімскі веснік» — орган Слонімскага райвыканкама — і прыватнае выданне «Газета Слонімская». Нерэгулярна, але часам выдаюць свае газеты і школы горада. У Слоніме таксама ёсць мясцовае радыё і Слонімскі прыватны тэлеканал. Цікава працуе ў Інтэрнэце і сайт «Рэгіён-4», які паведамляе пра ўсе навіны Слонімшчыны.

А гісторыя мясцовых СМІ пачалася сто гадоў таму — з 1913 года, калі слонімскія яўрэі выпусцілі ў свет сваю першую газету «Slonimer Word» («Слонімскае слова»).

У 1924–1926 гадах па суботах у Слоніме выходзіла газета «Слонімскае рэха» на польскай мове, потым выдавалася газета «Слонімскае жыццё», шмат газет-аднадзёнак.

Слонімская гімназія імя Тадэвуша Касцюшкі з 1929 года выдавала часопіс «Наша думка» на польскай мове. А потым у гэтай гімназіі пачаў выходзіць часопіс «Рэха школьных муроў». У Жыровічах да Другой сусветнай вайны сельскагаспадарчай школай выдаваўся



Rok I. Nr. 1. Słonim, Niedziela 25 grudnia 1938 r. Cena numeru 15 gr.

# GAZETA SŁONIMSKA

Tygodnik poświęcony sprawom społecznym, kulturalnym i gospodarczym

Szczęśliwych Świąt „WESOŁYCH ŚWIĄT”

REDAKCJA I ADMINISTRACJA

## OD REDAKCJI

Obywatele!

2 filmy za 1 bilet

KINO „MODERN”

10-ciu z Pawiaka

SYLVIA SIDNEY

Ten, którego ukochałam

Kino TĘCZA

Kościuszko pod Racławicami

Złóż ofiarę na Pomoc Zimową dla bezrobotnych

«Газета Слонімская». 1938 г.



Należność pocztowa uiszczona ryczałtem.

Cena numeru 35 gr.

Rok 1. Sobota 23 listopada 1929 r. № 6.

# ECHO SŁONIMSKIE

Organ bezpartyjny i niezależny Ziemi Nowogródzkiej.

Wychodzi każdej soboty. Redakcja i administracja: Słonim, ul. Mickiewicza 12.

KINO „MODERN” Słonim, Sienkiewicza 25

Od 23 listopada r. b.

Mocny człowiek

Pg. St. Przybyszewskiego

Korespondencja własna „Echa Słonimskiego”

## Jeszcze w kwestji województwa

Газета, якая выдавалася ў Слоніме ў 1920-х гадах



№ 11 ... 1930

# „ŻYROWIAK”

MIESIĘCZNIK

Uczniów Państwowej Szkoły Rolniczej

w Żyrowicach.

O

Nakładem Wydziału Naukowego Towarzystwa

ŻYROWICE

Такі часопіс выдаваўся ў Жыровічах у 1930-х гадах



Nr. 1. Słonim 1933 r.

# ECHO MURÓW SZKOLNYCH

Nakładem Bratniej Pomocy uczniów Gimnazjum Im. T. Kościuszki i Seminarjum Naucz. Męsk.

Drukarnia Chrześcijańska w Słonimie.

Часопіс слонімскіх школьнікаў. 1933 г.

часопіс «Жыравяк», а ў Альбярціне ўніяцкі святар Антон Неманцэвіч выпускаў часопіс «Да злучэння».

У верасні 1939 года ў Слоніме пачала выходзіць раённая газета «Вольная праца» («Слонімскі веснік»). Першым яе рэдактарам быў Іосіф Чарняўскі. Падчас нямецкай акупацыі паэт Сяргей Хмара выдаваў у Слоніме «Слонімскі кур’ер». Гэты спіс выданняў можна доўга працягваць. З яго відаць, што Слонімшчына ў XX стагоддзі без сваіх інфармацыйных выданняў ніколі не была.

# Кк

## Кірмашы

Кароль Жыгімонт I Стары ў 1532 годзе надаў Слоніму магдэбургскае права, якое ўводзіла ў горадзе самакіраванне і давала значную незалежнасць ад княжацкай адміністрацыі. А 13 траўня 1558 года кароль Жыгімонт II Аўгуст увёў у Слоніме два двухтыднёвыя кірмашы. Гэты год можна лічыць годам заснавання слонімскіх кірмашоў. У 2013 годзе ім споўніцца 455 гадоў.

Вельмі выгаднае геаграфічнае палажэнне Слоніма заўсёды рабіла яго бойкім для гандлю месцам. Праз горад праязджала даволі шмат людзей як з Захаду, так і з Усходу. Усё гэта, як пісаў гісторык Васіль Супрун, у значнай ступені прычынялася да развіцця харчовай вытворчасці, гандлю і адпачынку. Так, у 1810 годзе на 2940 гарадскіх жыхароў у Слоніме было 58 кавярняў і корчмаў.

Штотыднёвыя кірмашы сцягвалі ў Слонім нямала сялян не толькі са Слонімшчыны, але і з іншых паветаў і нават дзяржаў. Некалькі разоў на год наладжваліся ў горадзе над Шчарай вялікія кірмашы, якія доўжыліся шмат дзён. Сюды з’язджаліся купцы і сяляне з далёкіх мясцін. Гандаль ішоў не толькі коньмі, быдлам, сельскагаспадарчай прадукцыяй, але і прамысловымі таварамі, ганчарнымі, кавальскімі і іншымі вырабамі. «Горад у такія дні, — як піша Васіль Супрун у сваёй кнізе «Дзеі над Шчарай», —ператвараўся ў многагалосы вулей, а пасля кірмашу ў розныя напрамкі расцякаліся фурманкі сялян, фаэтоны купцоў, брычкі багатых землеўладальнікаў і босая галота».

Кожны год 7 чэрвеня ў Слоніме адбываўся Троіцкі кірмаш (у дзень Святой Тройцы). Сюды з’язджаліся больш за 3000 чалавек. Гандлёвыя аперацыі праводзіліся на гарадскім рынку і ў лаўках (крамах). У 1830-я гады на кірмаш прывозілі тавараў на суму 1020 рублёў (на той час гэта былі даволі вялікія грошы), у 1840-я — на суму 4685 рублёў, у 1850-я — на суму 7655 рублёў. Як бачыце, тавараў на Троіцкім кірмашы ў Слоніме

Гандаль на вуліцы ў Слоніме. Пачатак XX ст.



Кірмаш у Слоніме. Пачатак XX ст.



прадавалася з гадамі ўсё больш і больш.

Для беларускіх кірмашоў канца XVIII – першай паловы XIX стагоддзя характэрна спецыялізацыя гандлю па асобных гарадах. Таварная спецыялізацыя дапамагала купцам, рамеснікам, сялянам больш мэтанакіравана арыентаваць пакупнікоў на набыццё патрэбных рэчаў. Слонім тады быў цэнтрам гандлю збожжам, жывёлай, гарэлкай. Аднак універсальны характар Троіцкага кірмашу рабіў вольным доступ сюды і іншых тавараў: глінянага посуду, хатняга палатна, фабрычнага сукна, прылад працы і іншых гаспадарчых прадметаў.

Даволі ажыўленым быў гандаль у Слоніме і ў базарныя дні: па чацвяргах і нядзелях. На базары з'язджаліся сяляне з навакольных вёсак. Прадметамі куплі-продажу былі харчовыя прыпасы, жывёла, гаспадарчыя прылады і г. д.

Адкрыццё ў 1804 годзе суднаходства па канале Агінскага значна



На рынку ў Слоніме. 1930-я гады

ажывіла гандаль Слоніма з іншымі гарадамі. Па канале Агінскага, а пасля па Шчары і па Нёмане штогод адпраўлялі ў Прыбалтыку вялікую колькасць хлеба, будаўнічых матэрыялаў, воску, скур. Толькі ў 1815 годзе са Слоніма за мяжу было адпраўлена 300 пудоў воску, 500 пудоў мёду і іншых тавараў. Значная колькасць тавараў прывозілася ў Слонім. Так, напрыклад, толькі ў 1857 годзе на слонімскай прыстані было разгружана 67 суднаў. Дзякуючы Шчары і каналу Агінскага, па якім дзень і ноч прывозілі і адвозілі тавары, шырока развіваўся і гандаль на мясцовым рынку. У 1878 годзе ў Слоніме мелася 206 лавак і 53 склады з таварамі, а ў 1901 годзе лавак гандлёвых у Слоніме было каля 700. Нават Беластоцкі камерцыйны банк меў у нашым горадзе сваё аддзяленне, дзейнічала таварыства ўзаемнага крэдыту.



Рынак у Слоніме. Пачатак XX ст.

Развіццё прамысловасці і гандлю садзейнічала росту насельніцтва. Калі ў 1858 годзе ў Слоніме пражывала 8760 чалавек, то ў 1897 годзе было ўжо каля 16 тысяч...

Слонім — горад кірмашоў, гандлю, крамаў і бараў. Але мала хто займаўся гісторыяй слонімскіх кірмашоў і гандлю, таму вестак пра іх захавалася не дужа многа. Тым не менш кірмашы ў Слоніме праходзяць і цяпер, а значыць, традыцыі іх шматвяковай даўніны жывуць і сёння.

# Лл

## Літаратура

Літаратурная карта Слонімшчыны надзвычай багатая. Яшчэ пры тэатры Агінскага жылі і працавалі на літаратурнай ніве пісьменнікі Францішак Хамінскі і Ігнат Ляхніцкі. Ды і сам Міхал Казімір Агінскі пісаў вершы і выдаў кнігу «Байкі і не байкі» (1788).

У 1912 годзе ў Вільні выйшлі з друку кніжкі слонімскіх аўтараў — Кандрата Лейкі «Снатворны мак» і Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі». Кніжку Кандрата Лейкі склала сцэнічная п’еска для дзіцячых тэатраў. Прысвяціў гэту п’еску аўтар дзецям Слонімскага павета. Гэта быў першы дзіцячы драматычны твор у беларускай літаратуры. Зборнік вершаў Гальяша Леўчыка быў надрукаваны лацінскім шрыфтам. У ім слонімскі паэт пісаў:

*Хто адрокся сваіх,*
*Хто стыдацца нас стаў*
*І прыліп да чужых, —*
*Каб ён свету не знаў!*

*Мову родную хто*
*Пазабыў, асмяяў,*
*Загубіў за нішто, —*
*Каб ён свету не знаў!..*

Усё сваё жыццё ў Слоніме пражыў беларускі паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско). Першы зборнік яго выйшаў у Вільні, ён меў назву «Песні на загонах». Потым свет пабачылі яго кнігі «З пройдзеных дарог» (1970), «Жыву ў бацькоўскім краі» (1982), «Я пайшоў бы ўслед за летам…» (1987) і іншыя. Галоўная тэма яго вершаў была — радзіма, родная прырода, землякі. Ім і прысвячаў свае паэтычныя радкі Анатоль Іверс.

Слонімшчына з’яўляецца радзімай доктара філалагічных навук, прафесара Алега Лойкі, дзіцячага празаіка і драматурга Уладзіміра Ягоўдзіка, доктара філалагічных навук, паэта Міколы Арочкі, энцыклапедыста і літаратуразнаўца Янкі Саламевіча, паэта, які загінуў у сталінскіх лагерах, Сяргея Дарожнага, археолага і паэта Васіля Супруна, даследчыка літаратуры і архівіста Віталя Скалабана, перакладчыка Уладзіміра Сакалоўскага і многіх-многіх іншых. На Слонімшчыне нарадзіліся і жылі не толькі




Алег Лойка


Анатоль Іверс


Васіль Супрун

беларускія літаратары, але і яўрэйскія, польскія, рускія. У Жыровічах меў хату Плакід Янкоўскі, які там пісаў на рускай і польскай мовах, у Слоніме нарадзіўся польскі паэт і перакладчык Юльян Косаў, які жыў у XIX стагоддзі. Слонім — радзіма першага рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва» Хацкеля Дунца, які пісаў на мове ідыш і іншых. Цяпер у Слоніме жывуць празаік і драматург Аляксей Якімовіч, паэтка Ірына Войтка, паэт Мікола Кананові́ч, паэт і філосаф Зьніч (Алег Бембель), а таксама аўтар гэтай кнігі.


Гальяш Леўчык


Кандрат Лейка


Сяргей Дарожны



Гальяш Леўчык з землякамі ў Слоніме (трэці злева). 1905 г.




Першы зборнік паэзіі Анатоля Іверса



Янка Саламевіч




Першы зборнік вершаў Міколы Арочкі. 1958 г.

Але гэта далёка не поўны спіс сяброў літаратурнай Слонімшчыны. Яго можна яшчэ папаўняць і папаўняць. Кнігі слонімскіх літаратараў можна знайсці ва ўсіх бібліятэках Слонімшчыны.

# Мм

## Музеі

У Беларусі сёння створаны сотні музеяў. У іх наладжваюцца розныя выставы экспанатаў, праводзяцца цікавыя экскурсіі, сустрэчы, прэзентацыі кніг. Ёсць музеі і ў Слоніме. Найперш гэта раённы краязнаўчы музей імя Язэпа Стаброўскага. Ён дзейнічае з 20 верасня 1929 года. Экспазіцыя музея размешчана ў 9 залах. У пяці залах аддзела гісторыі музея паказаны археалогія краю, старажытны Слонім, Слонімшчына ў складзе Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, эканоміка і культура Слонімшчыны ў XIX – пачатку XX стагоддзя. Шмат экспанатаў у музеі, якія распавядаюць пра наш край у 1920–1930-х гадах. У музеі шырока паказаны і падзеі Першай і Другой сусветных войнаў, асобная экспазіцыя прысвечана ўдзелу слонімцаў у вайне ў Афганістане.

Сярод экспанатаў музея ёсць рэдкія і нават унікальныя. Да іх належаць старaславянскі ідал X стагоддзя, скарб польска-літоўскіх манет XVI–XVIII стагоддзяў, Статут Вялікага Княства Літоўскага на польскай мове выдання 1648 года, драўляны пелікан XVIII стагоддзя работы прыгоннага майстра з маёнтка Новыя Дзявяткавічы графа Слізеня, фрагмент драўлянага вадаправода, пракладзенага ў Слоніме ў XVIII стагоддзі Міхалам Казімірам Агінскім, бронзавы бюст Напалеона Банапарта, выкананы ў Парыжы ў 1885 годзе, дакумент на скуры аб адкрыцці краязнаўчага музея ў Слоніме, калекцыя прадметаў народнага побыту, адзення і мастацтва XIX–XX стагоддзяў і іншыя.

У Слонімскай сярэдняй школе № 4 з 1965 года працуе Народны музей імя Аляксандра Жукоўскага. Музей займае асобны будынак з трох вялікіх залаў. У гэтых залах захоўваюцца звыш 6 тысяч унікальных экспанатаў, найбольш экспанатаў прысвечаны Другой сусветнай вайне, выпускнікам школы, Слонімшчыне XX стагоддзя. Музей стварыў настаўнік гэтай школы, заслужаны работнік культуры Беларусі Аляксандр Жукоўскі. Яго імем і названы школьны музей.

Народны музей СШ № 4 г. Слоніма праводзіць вялікую работу па патрыятычнаму выхаванню вучнёўскай моладзі. Матэрыялы музея выкарыстоўваюцца на ўроках, выхаваўчых мерапрыемствах, для напісання вучнямі рэфератаў, дакладаў, навуковых і курсавых работ. У музеі праводзяцца ўрокі, выхаваўчыя гадзіны, сустрэчы з цікавымі людзьмі Слонімшчыны.

У слонімскай сярэдняй школе № 2 існуе невялікі музей Героя Савецкага Саюза Кузьмы Гнедаша і радысткі Клары Давыдзюк, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вай-




Адна з залаў музея кнігі Слонімскай раённай цэнтральнай бібліятэкі імя Якуба Коласа

ны. А ў СШ № 10 у 1986 годзе адкрыўся музей «Горад Слонім і яго героі». А ў Слонімскім ліцэі дзейнічае пакой-музей беларускага паэта Валянціна Таўлая.

У 1992 годзе ў Слонімскай цэнтральнай бібліятэцы імя Якуба Коласа быў адкрыты музей кнігі. Гэта першы музей кнігі ў Гродзенскай вобласці. Музей складаецца з двух аддзелаў: адзін прысвечаны Якубу Коласу, другі — літаратурнай Слонімшчыне. У музеі захоўваецца шмат кніг з аўтографамі вядомых беларускіх літаратараў, перададзеных у дар бібліятэцы. Ганаровае месца ў экспазіцыі займаюць скульптуры Францыска Скарыны і паэта Анатоля Іверса, якія падараваў музею слонімскі скульптар Леанід Богдан.

Нн

## Народныя вучылішчы

У XIX стагоддзі сярод сялян Слонімскага павета была масавая непісьменнасць. Дзеля гэтага пачалі адкрывацца народныя вучылішчы не толькі на Слонімшчыне, але і па ўсёй Беларусі. У ліпені 1864 года нават было выдадзена «Палажэнне пра народныя вучылішчы». Згодна з гэтым «Палажэннем…» у вучылішчах выкладалі Закон Божы, арыфметыку, мову, чытанне і царкоўныя спевы. Асаблівая ўвага надавалася вывучэнню Закона Божага, які выкладалі святары. Астатнія прадметы вялі настаўнікі. І настаўнікі, і святары кантралявалі, каб дзеці выхоўваліся ў



СОБРАНІЕ

АРИѲМЕТИЧЕСКИХЪ

ЗАДАЧЪ

для гимназій и прогимназій, мужскихъ и женскихъ, реальныхъ, уѣздныхъ и городскихъ училищъ, учительскихъ институтовъ и семинарій.

СОСТАВИЛИ

А. Малининъ и К. Буренинъ.

ИЗДАНІЕ ДВАДЦАТЬ ДЕВЯТОЕ.

Изданіе книжнаго магазина В. В. ДУМНОВА, подъ фирмою „Насл҃ѣдн. бр. Салаевыхъ".

МОСКВА.

Товарищество „Печатня С. П. Яковлева", Петровка, Салтыковскій пер., домъ № 9.

1907.

По такіх падручніках у народных вучылішчах вывучалі арыфметыку

патрэбным ім духоўна-маральным кірунку.

Першае народнае вучылішча на Слонімшчыне было створана ў 1852 годзе. А ў 1864 годзе ў Слонімскім павеце ўжо было 24 народныя вучылішчы. У Слоніме былі таксама два прыходскія вучылішчы: падрыхтоўчы клас пры дваранскім павятовым вучылішчы і Замосцеўскае аднакласнае прыходскае вучылішча ў фарштаце г. Слоніма. Сельскае народнае вучылішча складалася з вучылішчнага дома, дома для службы, хаты для вучняў, якія прыходзілі на вучобу з далёкіх вёсак.

Вось як выглядаў на той час штат Слонімскага народнага аднакласнага вучылішча:

- Жалаванне настаўніку складала 200 рублёў у месяц.
- Жалаванне законанастаўніку права — 40 рублёў.
- На падручнікі і ўзнагароды вучням выдаткоўвалася 30 рублёў.
- Арэнда памяшканняў для вучылішча і настаўнікаў складала 100 рублёў.
- На ацяпленне і чысціню трацілася 40 рублёў.
- Вартаўнік атрымліваў 50 рублёў.

Першапачатковую адукацыю павінны былі атрымліваць усе хлопчыкі ва ўзросце ад 10 да 15 гадоў. Гэта была элементарная адукацыя ў аб'ёме вучэбнага курса прыходскіх вучылішчаў. За першы прапушчаны без вучобы год абавязковага ўзросту, гэта значыць за неадукацыю хлопчыка на 11-м годзе яго жыцця, з бацькоў браўся штраф у памеры ад 3 да 30 рублёў. Калі хлопчык не хадзіў больш у школу, то бацькі плацілі большы штраф — ад 7 да 70 рублёў, гледзячы, які быў дабрабыт у сям'і.

У 1900 годзе на Слонімшчыне дзейнічала ўсяго 13 народных вучылішчаў. Яны былі ў Азярніцы, Дзявяткавічах, Дзераўной, Жыровічах (было два — для хлопчыкаў і дзяўчынак), Міжэвічах, Мяль-

канавічах, Парэччы, Пасінічах, Сасноўцы, Кастровічах, Харашэвічах і Шылавічах. Дзяўчынак у народных вучылішчах Слонімшчыны вучылася значна менш, чым хлопчыкаў.

Адметным для народных вучылішчаў Слонімшчыны было тое, што ў іх працавалі настаўнікамі многія выхаванцы Свіслацкай настаўніцкай семінарыі, а сярод святароў было шмат выпускнікоў Літоўскай духоўнай семінарыі.

Стварэнне і дзейнасць народных вучылішчаў на Слонімшчыне, як і ў іншых рэгіёнах Беларусі, з'яўлялася справай прагрэсіўнай. Яны развівалі ў сельскіх дзяцей цікавасць да ведаў, садзейнічалі пашырэнню пісьменнасці сярод беларускага народа, росту яго культуры.

# Оо

## Орлавічы

Ёсць на Слонімшчыне вёска Орлавічы. Але яна нічым асаблівым не праславілася ў нашай гісторыі. Звычайная вёска, вядомая з XIX стагоддзя. А вось саму вёску праславіў на ўсю Беларусь толькі адзін чалавек — Язэп Стаброўскі — археолаг, краязнавец, гісторык, філосаф, вынаходнік, заснавальнік аднаго са старэйшых у Беларусі Слонімскага раённага краязнаўчага музея. У Орлавічах быў маёнтак Язэпа Стаброўскага, а вакол маёнтка яго ўласная зямля — 65 гектараў. Зямлю сваю ён бясплатна падараваў жыхарам Орлавіч. А сам маёнтак Стаброўскіх у гады Другой сусветнай вайны спаліў Пракоп Герасімчык разам з партызанамі. У агні згарэлі карціны мастакоў, старая мэбля, каштоўныя гістарычныя дакументы, бібліятэка і ўсё, што сабралі Стаброўскія за шмат гадоў. Там быў і кабінет Язэпа Язэпавіча.

Язэп Стаброўскі нарадзіўся 2 лістапада 1870 года ў Слоніме. У сямейным альбоме, які захоўваецца ў дачкі Іосіфа Стаброўскага — Дзіляры Стаброўскай, ёсць цікавы і каштоўны здымак яго дзеда. Пад фатаграфіяй у альбоме напісана:



Язэп Стаброўскі з жонкай. 1916 г.



Каля магіл Стаброўскіх у вёсцы Орлавічы Слонімскага раёна. 1990-я гады

«Вікенці сын Мацея Стаброўскі, рэгент земскі, гаспадар маёнтка Кулікі. Памёр у 1868 годзе. Пахаваны ў пабудаванай за яго сродкі ўніяцкай царкве ў Мілавідах».

Бацька Язэпа Стаброўскага — Іосіф удзельнічаў у венгерскай, турэцкай і севастопальскай войнах. Штабс-капітан Мурамскага палка Іосіф Вікенцьевіч Стаброўскі быў паранены падчас бітвы пад Севастопалем і звольнены са службы па раненні ў 1859 годзе. Пахаваны ў вёсцы Орлавічы на Слонімшчыне.

Маці Язэпа Стаброўскага — Людвіка была родам з князёў Масальскіх. Памерла ў 1902 годзе, пахавана побач з мужам у Орлавічах. Дарэчы, бацька Людвікі Стаброўскай — Адольф Масальскі прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года. За гэта Мураўёў-вешальнік саслаў яго ў Нерчынскія руднікі. І родны брат маці — Карл Масальскі таксама ўдзельнічаў у гэтым паўстанні. Ён быў камандзірам аднаго з атрадаў Кастуся Каліноўскага.

У 1888 годзе Язэп Стаброўскі стаў курсантам Аляксандраўскага ваеннага вучылішча. Тут ён пазнаёміўся з будучым вядомым рускім пісьменнікам Аляксандрам Купрыным. Яны шчыра пасябравалі. А потым, калі Стаброўскі жыў на Слонімшчыне, доўга перапісваліся. Наш зямляк запрашаў яго ў госці ў вёску Орлавічы. Але, на жаль, Купрын на Слонімшчыне так і не пабываў. Адзначу, што Язэп Стаброўскі перапісваўся і з Львом Талстым. А ў час ганення Льва Талстога расійскім урадам ён напісаў яму шчырае пісьмо ў знак падтрымкі пісьменніка. У палку, дзе служыў Стаброўскі, гэтым учынкам былі ўсе здзіўлены.

Дзякуючы сваім здольнасцям Язэп Стаброўскі атрымаў магчымасць

яшчэ закончыць Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскі археалагічны інстытут і Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. Быў членам-карэспандэнтам Віленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага таварыства і сябрам Яраслаўскага археалагічнага таварыства.

У 1921 годзе Язэп Стаброўскі вяртаецца на родную Слонімшчыну і ўсе свае сілы і веды аддае даследаванню роднага краю. Ён збірае ўсё, што, на яго погляд, уяўляла гістарычную каштоўнасць. У калекцыі Язэпа Стаброўскага былі такія экспанаты, якія маглі б упрыгожыць стэнды і залы найлепшых музеяў Еўропы.

Восенню 1924 года Язэп Стаброўскі арганізаваў у Слоніме выставу старадаўніх дакументаў і кніг, якія збіраў шмат гадоў. Выстава выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў, асабліва сярод моладзі. Пасля яе закрыцця ўвесь сабраны археалагічны матэрыял і каштоўную калекцыю вырабаў каменнага веку Стаброўскі паклаў у аснову гісторыка-краязнаўчага музея, які расчыніў дзверы перад наведвальнікамі ў верасні 1929 года.

Язэп Стаброўскі быў не толькі выдатным археолагам і краязнаўцам, але і таленавітым гісторыкам і вынаходнікам. Ім даследавана больш за 150 курганоў на Гродзеншчыне, напісаны і надрукаваны дзясяткі артыкулаў па краязнаўству і гісторыі.



Язэп Стаброўскі

Памёр Язэп Стаброўскі 15 студзеня 1968 года. Пахаваны ён побач са сваімі сваякамі на могілках у Орлавічах.

У верасні 2002 года, калі Слонім адзначаў сваё 750-годдзе, на будынку музея была ўстаноўлена мемарыяльная дошка (аўтар Леанід Богдан), прысвечаная Язэпу Стаброўскаму — заснавальніку музея.

А крыху пазней яго імем назвалі і сам Слонімскі раённы краязнаўчы музей.

# Пм

## Помнікі і мемарыяльныя шыльды

Помнікаў, якія ўшаноўваюць памяць пра знакамітых слонімцаў, у горадзе над Шчарай даволі мала. На вялікі жаль, няма ў Слоніме ніводнага помніка слонімскім пісьменнікам, кампазітарам, акцёрам, мастакам, вучоным. Але ёсць у Слоніме чатыры помнікі Леніну: у гарадскім парку, у цэнтры горада, у Альбярціне і каля сельскагаспадарчага ліцэя. Ёсць у нашым горадзе і помнікі ў гонар вызваліцеляў Слоніма ў гады Другой сусветнай вайны. На вуліцы Першамайскай у 1968 годзе быў пастаўлены помнік — танк Т-34 на бетонным п’едэстале, каля СШ № 4 — мадэль самалёта ІЛ-2. На вуліцы Пушкіна на брацкай магіле воінаў, якія загінулі ў гады Другой сусветнай вайны, у 1956 годзе быў пастаўлены помнік — скульптура салдата з аўтаматам і апушчаным у жалобе сцягам работы скульптара А. Курачкіна. Побач з помнікам знаходзяцца магілы Героя Савецкага Саюза Кузьмы Гнедаша і старшага сяржанта Клары Давідзюк. У 1957 годзе на магіле Гнедаша і Давідзюк устаноўлена стэла з чорнага лабрадарыту.

На Чырвонаармейскай вуліцы здалёк бачна мемарыяльная шыльда, прысвечаная дэпутату Вярхоўнага Савета БССР Ганне Кароль, якую забілі ў 1947 годзе ў вёсцы Шыла-



Помнік воінам-вызваліцелям Слоніма на вуліцы Пушкіна



Помнік Леніну ў цэнтры Слоніма

вічы. Ёсць мемарыяльныя шыльды, прысвечаныя Герою Савецкага Саюза Льву Даватару, піянеру-герою Васю Крайняму, удзельнікам Другой сусветнай вайны Мікалаю Мірошніку, палкоўніку Мікалаю Хлюпіну і іншым асобам, якія мелі дачыненне да апошняй вайны на Беларусі.



Помнік танку на Першамайскай вуліцы ў Слоніме

# Рр

## Рака Шчара і канал Агінскага

Праз Слонім працякае рака Шчара — левы прыток Нёмана. Даўжыня Шчары 325 кіламетраў. Пачынаецца яна на Навагрудскім узвышшы з возера Калдычэва Баранавіцкага раёна. Калі старостам слонімскім быў Міхал Казімір Агінскі, то па яго загаду ў Слоніме быў пабудаваны Малы канал Агінскага і Вялікі канал Агінскага. Малы канал быў не толькі месцам лодачных прагулак, але і вячэрнім тэатрам пад адкрытым небам. А Вялікі канал Агінскага злучыў Шчару з прытокам Прыпяці ракой Ясельдай, а праз іх — Нёман з Дняпром. Капаўся ка-



На беразе Шчары ў Слоніме. 1931 г.



На канале Агінскага ў Слоніме Пачатак XX ст.



Адкрыццё моста праз Шчару ў Слоніме. 1930 г.



Некалі па Шчары плавалі такія катары



Прыстань на канале Агінскага. 1930 г.

нал крыху больш за дзесяць гадоў выключна жыхарамі Слонімскага павета. Даўжыня яго каля 54 кіламетраў, ён меў 10 шлюзаў. Шлюзы будаваліся для таго, каб трымаць адпаведны ўзровень вады. Па Шчары сплаўлялі лес, перавозіліся скура, збожжа, сукно, будаўнічыя матэрыялы. Напрыклад, у 1857 годзе на слонімскай прыстані грузіліся 15 суднаў і 280 плытоў. Уніз па цячэнні баржы ішлі сваім ходам, а вось уверх іх спачатку цягнулі людзі, а потым коні. Напачатку XX стагоддзя па Шчары плавалі параходы. А ў 1930-х гады да прыстані Слонім былі прыпісаны два дызельныя катары «Шчара» і «Тадэвуш Рэйтан». Усе службовыя памяшканні і прыстань знаходзіліся на Малым канале Агінскага на месцы цяперашняга гарадскога парку.

Вясною 1947 года па Шчары хадзілі шэсць катараў, некалькі трафейных баржаў. А дзесьці ў канцы 1950-х гадоў у Слоніме працавала праектная брыгада з Масквы па пабудове Чарнаморска-Балтыйскага канала, які павінен быў праходзіць праз Слонім. Але наш горад так і не стаў портам.

Сёння мы згубілі Шчару як транспартную артэрыю. За апошнія дзесяцігоддзі рэчка значна абмялела, плаціна разбурана, берагі размытыя. У некаторых месцах Шчару лёгка можна перайсці з берага на бераг.

# Сс

## Сапега Леў

Выдатны дзяржаўны і грамадскі дзеяч Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега (1557–1633) на працягу 47 гадоў быў старостам слонімскім і пакінуў значны след на слонімскай зямлі.

У лютым 1584 года Леў Сапега ў рангу пасла Вялікага Княства Літоўскага быў накіраваны ў Маскву да цара Івана IV, каб вырашыць шэраг памежных пытанняў і абмяняцца ваеннапалоннымі. Аднак пасольства часова затрымалі ў Мажайску, бо якраз у сакавіку 1584 года памёр Іван Грозны. Тым не менш нашы паслы дабраліся да рускага цара Фёдара Іванавіча і былі ім прынятыя. Перамовы адбыліся на належным узроўні, падчас якіх было падпісана перамір'е, а Льву Сапегу ўдалося вызваліць каля 1000 ліцвінаў. За ўдалую дыпламатычную місію Леў Сапега 2 лютага 1585 года атрымаў пасаду падканцлера Вялікага Княства Літоўскага, а 20 ліпеня 1586 года атрымаў пажыццёва Слонімскае староства. Сюды ўвайшлі двары і многія маёнткі Слонімскага павета. Яшчэ да 1611 года Леў Сапега атрымаў у пажыццёвую спадчыну Слонімскае лясніцтва, адзін двор па смерці Эразма Баркоўскага (у 1599 годзе), а таксама прывілей вялікага князя, паводле якога яго жонцы давалася

права на трыманне Рэтаўскага і Блудзенскага староstваў. А горад Слонім стаў галоўнай рэзідэнцыяй канцлера. Фінансавыя магчымасці Льва Сапегі хутка пачалі расці, таму ён мог не толькі сам набываць мноства двароў, але і даваць у пазыку наяўныя грошы. Напрыклад, мінскі ваявода Ян Пац 27 чэрвеня 1600 года выдаў яму пазыковы акт на 625 коп грошаў. Зыходзячы з ускосных сведчанняў, Леў Сапега меў шмат даўжнікоў. Аднак асноўныя фінансавыя выдаткі ён выкарыстоўваў для набыцця ўсё новых і новых двароў.

Але Леў Сапега не толькі набываў для сябе новыя ўладанні, ён хутка стаў сапраўдным магнатам і быў даволі шчырым чалавекам. Ён пачаў дарыць некаторыя свае ўладанні сваякам і сябрам. Кузіне Раіне Сапежанцы і яе мужу Грыгалю Трызне Сапега падараваў фальварак Булы ў Слонімскім старостве. А вёску Бароўка, што знаходзілася ў Слонімскім старостве, ахвяраваў слонімскаму маршалку Аўрааму Мялешку і яго жонцы Багдане…

Леў Сапега любіў Слонім. Пры ім горад над Шчарай стаў культурным, прамысловым і палітычным цэнтрам. Побач з замкам на беразе Шчары канцлер Сапега ўзвёў мураваны палац, дзе са студзеня 1597 года праходзілі генеральныя сеймікі Вялікага Княства Літоўскага. Сюды прыязджалі пасланцы з Віленскага, Наваградскага, Менскага, Смаленскага, Чарнігаўскага і іншых ваяводстваў. Гэтыя сеймікі адбываліся ў Слоніме ажно да 1685 года, калі ўжо і не было Льва Сапегі.




Леў Сапега — слонімскі староста

У слонімскім замку знаходзіліся і добрая бібліятэка, архіў, творы мастацтва. Леў Сапега добраўпарадкаваў у Слоніме вуліцы, масты, дарогі, пабудаваў шмат аўстэрыяў. У 1595 годзе слонімскі староста аднавіў спалены крымскімі татарамі ў 1506 годзе касцёл Святога Андрэя. Пазней ён быў перабудаваны, а сучасны выгляд набыў у 1775 годзе. Сярод вялікай колькасці сапегаўскіх фундацый (канцлер на тэрыторыі Вялікага Княства Лі-

тоўскага збудаваў 25 храмаў) касцёл Святога Андрэя ў Слоніме да сённяшніх дзён выдзяляецца сваім адметным архітэктурным стылем. У часы Льва Сапегі касцёл Святога Андрэя ў Слоніме ператвараецца ў адзін з цэнтраў рэлігійнага жыцця не толькі горада, але і ўсяго княства. На тэалагічныя дыспуты сюды прыязджаюць Сымон Будны і Пётр Скарга.

Акрамя касцёла Святога Андрэя чальцы сапегаўскай дынастыі ўзвялі ў Слоніме касцёл бернардзінцаў, малітоўню для рэгулярных лютэранскіх канонікаў. Акрамя гэтага Сапегі спрыялі распаўсюджванню ў Слоніме школаў ды калегіумаў, якія дзейнічалі пры гарадскіх касцёлах і цэрквах.

Леў Сапега ў Слоніме адкрываў таксама новыя кірмашы, прамысловыя мануфактуры, будаваў адміністрацыйныя ды гаспадарчыя будынкі. Дарэчы, у сапегаўскіх тастаментах Слонім і аднайменнае староства падаюцца як родавая маёмасць.

Слонім і яго жыхары і сёння ганарацца сваім гербам, распрацаваным і ўхваленым па хадайніцтве Льва Сапегі.

Пра канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегу цяпер нагадвае ў Слоніме плошча перад касцёлам Святога Андрэя, якая носіць яго імя.



## Тэатр Агінскага

Росквіт Слоніма ў другой палове XVIII стагоддзя звязаны з дзейнасцю вялікага гетмана літоўскага Міхала Казіміра Агінскага. У 1771 годзе Агінскі перайшоў на бок Барскай канфедэрацыі, але не здолеў са сваім войскам заняць Нясвіж і Слуцк. У ноч на 23 верасня 1771 года яго трохтысячнае войска было разбіта пад Сталавічамі (цяпер Баранавіцкі раён) рускімі войскамі Суворава. Пасля паражэння Міхал Казімір Агінскі эмігрыраваў. Але праз чатыры гады, атрымаўшы амністыю і секвестраваныя маёнткі, Агінскі вярнуўся ў Слонім, дзе пабудаваў некалькі прадпрыемстваў, друкарню, заснаваў тэатр і капэлу. Па яго ініцыятыве і на яго сродкі быў пабудаваны ў Слоніме і канал Агінскага.

У тэатры Агінскага працавалі прафесійныя беларускія, польскія, нямецкія, італьянскія оперныя і драматычныя акцёры, мастакі, прыгонны хор і балет. Тэатр меў свае філіялы ў Целяханах і ў Сельдцах. Рэпертуар, які ставіўся на сцэне тэатра, уключаў 60 опер, 18 балетаў, 3 музычныя камедыі, 253 сімфоніі і больш за 460 іншых музычных твораў. У 1781 годзе функцыянаваў «плывучы тэатр» на баржах на Агінскім канале ў Слоніме. А «дом оперы» меў вялікую сцэну, прыста-



Міхал Казімір Агінскі (1730–1800)

саваную для паказаў любых барочных спектакляў, оперных і балетных, для выхаду вялікай колькасці спевакоў і артыстаў, для тэатральных баталій коннікаў і водных феерый (частка сцэны затаплялася вадой з канала, і па ёй плавалі лодкі), для складаных дэкарацый, розных сцэнічных эфектаў. Тэхнічныя магчымасці сцэны дазвалялі паказваць і два фантаны, якія асвятляліся бенгальскімі агнямі.

Побач з тэатрам у 1765 годзе ў Слоніме пачала дзейнічаць першая кавярня («кафенхаўс»). Гэта быў сапраўдны шыкоўны цагляны будынак, аздоблены ўнутры шаўковымі шпалерамі і гравюрамі на медзі. Посуд тут быў фаянсавы варшаўскай вытворчасці.

Сам Міхал Казімір Агінскі пісаў музыку і літаратурныя творы, некаторыя з іх былі надрукаваны ў слонімскай друкарні. Ён выдаў кнігу «Байкі і не байкі» ў двух тамах. Як паэт, драматург і перакладчык ён увайшоў у гісторыю польскай літаратуры. Як расказваюць гістарычныя крыніцы, калі памёр французскі асветнік Жан Жак Русо, Агінскі адразу адправіўся ў кабінет караля і сказаў: «Ваша міласць, памёр мой калега!» Кароль палічыў, што гаворка ідзе пра польскага польнага гетмана Сасноўскага.



Заснавальнік Слонімскага драматычнага тэатра, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Мікалай Варвашэвіч (10.10.1934–1.11.2001)






Руіны палаца Агінскага ў Слоніме. Канец XIX ст.

«Не, — запярэчыў Агінскі, — я маю на ўвазе смерць Русо!» Калі ж ён убачыў здзіўленне караля, то растлумачыў: «Бо Русо ж напісаў музыку да оперы “Le Devin du Village”. Я таксама пісаў лібрэта і музыку да операў, якія былі пастаўлены ў Слоніме. У гэтым сэнсе Русо — мой калега!»

Тэатр Агінскага ў Слоніме знаходзіўся на Опернай вуліцы. Але, на вялікі жаль, будынак тэатра да сённяшніх дзён не захаваўся. Але ёсць у Слоніме Оперная вуліца — назвы такой не мае ні адзін горад у свеце. І той, хто наведае Слонім, можа прайсціся па гэтай вуліцы, па якой некалі спяшаліся артысты ў свой славуты тэатр у Еўропе. А яшчэ захавалася аўстэрыя, пабудаваная з цэглы архітэктарам Я. Боем, які праектаваў пры палацы Агінскага шэраг барочных надворных пабудоў. Палова першага паверха аўстэрыі была адведзена пад гасціную, перакрытую чатырма ветразевымі скляпеннямі з цэнтральнай апорай. Пад гэтай часткаю дома знаходзяцца шырокія скляпеністыя падвалы. Цэнтральная лесвіца вузкага вестыбюля вядзе на другі жылы паверх. Аўстэрыя — адзіная ўцалелая пабудова аднаго з найцікавейшых палацавых ансамбляў Беларусі другой паловы XVIII стагоддзя. Яна сёння дае ўяўленне аб агульным характары яго барочнай архітэктуры.

Слонім часоў Агінскага нярэдка называлі «палескімі Афінамі». Сюды ў святочныя дні з’язджаліся вяльможы і найбагацейшая шляхта з усяго краю і нават з Варшавы. Горад меў узорны парадак. Скверы, сады, аранжарэі і рыбныя ставы ствараліся і даглядаліся лепшымі спецыялістамі Еўропы. Дарэчы, у Слоніме пры двары Міхала Казі-

Слонімская тэатральная афіша, XIX ст.

міра Агінскага прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады яго пляменніка Міхала Клеафаса Агінскага, аўтара вядомага ўсім паланэза «Развітанне з Радзімаю». Тут ён атрымаў пачаткую музычную адукацыю ў вядомага музыканта і кампазітара Іосіфа Казлоўскага.

Той тэатральны шлях, які пачаў у Слоніме Міхал Казімір Агінскі амаль 300 гадоў назад, працягваецца і сёння. У горадзе існуе прафесійны дзяржаўны драматычны тэатр, які ставіць спектаклі па п’есах беларускіх, рускіх, польскіх, французскіх і італьянскіх драматургаў. Спектаклі ставяцца як для дарослых, так і для юных гледачоў. Калі ў цэнтры горада пабудуецца новы будынак тэатра, то плошчу Леніна, я ў гэта веру, перайменуюць у Тэатральную плошчу і перад тэатрам паставяць помнік Міхалу Казіміру Агінскаму. Тады наш Слонімскі драматычны тэатр будзе знаходзіцца ў самым цэнтры горада на Тэатральнай плошчы.

# Уу

## Услонім

У старых летапісах да XIV стагоддзя Слонім успамінаецца як Услонім, Вслонім, Васлонім. Як лічыў слонімскі краязнавец Васіль Супрун, назва Услонім паходзіць ад славянскага слова «ўслона». Услона — гэта заслон, пэўнае засланяючае збудаванне ці некалькі збудаванняў. Магчыма, некалі, дзеля калектыўнай абароны, абапал русла Шчары былі ўзведзены некалькі ўмацаваных гарадзішчаў. Відаць, гэта і быў той «услон», пад ахову якога цягнуліся ўсё новыя і новыя жыхары.


Слонім на карце. 1613 г.


Схема Слоніма. XVI ст.

Услонім упершыню прыгадваецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 годам: «Данил же и Василько, брат его, разгадав со сыном, брата си посла на Волковысек, а сына на Услоним, а сам иде ко Здитову: и поимаша грады многы и взвратишася в домы».

Некаторыя гісторыкі і даследчыкі выказваюць меркаванні, што горад над Шчарай названы так таму, што там знаходзілі шмат слановых (мамантавых) костак. Іншыя сцвярджалі, што назву горад атрымаў ад польскіх слоў «слома» (салома), ці «слоніна» (сала), спасылаючыся на саламяныя стрэхі хат і шырокі гандаль салам. Наш зямляк доктар гістарычных навук Васіль Мялешка выказваў сваю ўласную версію і прыйшоў да высновы, што Слонім паходзіць ад літоўскіх слоў «сленіс», «сленумас» — нізіна, нізінны.

Усе гэтыя версія мы сёння павінны спакойна прымаць. Адно нам добра вядома, што са стагоддзямі са слоў Услонім, Вслонім, Васлонім выпалі першыя галосныя і зычныя літары. І нам у спадчыну засталася назва горада — Слонім.

Фф

## Фабрыкі і заводы

Сёння на тэрыторыі Слонімскага раёна ажыццяўляюць дзейнасць 19 прамысловых прадпрыемстваў, на якіх працуюць каля шасці тысяч чалавек. Самымі вялікімі прадпрыемствамі Слоніма з’яўляюцца мясакамбінат, кардонна-папяровы завод «Альбярцін», камвольна-прадзільная фабрыка, прад-


Суконная фабрыка ў Альбярціне. Малюнак Напалеона Орды. 1865 г.


Млын Пуслоўскага ў Альбярціне. Пачатак XX ст.

прыемства малочных прадуктаў, «Слоніммэбля», вінзавод, хлебазавод, маторарамонтны завод, камбікормавы завод, завод жалезабетонных канструкцый, драбільна-сартавальны завод, фабрыка мастацкіх вырабаў, фабрыка «Тэкстыльшчык» і іншыя.

На прадпрыемствах Слоніма вырабляецца кардон, папера, пража, вырабы з махровай тканіны, коўдры паўшарсцяныя, ільновалакно, воцат, пер'е-пуховыя і швейныя вырабы, мэбля і іншая прадукцыя.

Нягледзячы на розныя палітычныя перамены і войны, Слонімшчына заўсёды імкнулася эканаміч-




Слонімская камвольна-прадзільная фабрыка

на развівацца. Развіццё гэта адбывалася няпроста, але тым не менш яно паціху захоўвала і нарошчвала сваю прамысловасць. Напрыклад, у 1870 годзе ў Слоніме існавала толькі пяць фабрык: вінакурня, дзве гарбарні, цагельня і фабрыка ганчарных вырабаў. А вось ужо ў 1877 годзе ў Слоніме было 19 фабрык. Гэта — вяровачная, чатыры бровары, алейня, два паравыя млыны, смалакурня, тры гарбарні, дзве цагельні, фабрыка кафлі і чатыры фабрыкі ганчарных вырабаў. У 1882 годзе ў Слоніме працавалі 3 фабрыкі і 22 заводы, а ў 1897 — 4 фабрыкі і 28 заводаў, дзе выпускалі мыла, воцат, свечкі, віно, муку малолі, мёд варылі, масла білі і г. д. У 1896 годзе багаты слонімскі прадпрымальнік Куніца праклаў у Слоніме адзін з першых у губерні натуральны гарадскі водаправод. А перад тым на рацэ Ісе ў Альбярціне Пуслоўскі пусціў першую ў Заходняй Беларусі гідраэлектрастанцыю.

Напачатку XX стагоддзя на тэрыторыі Слоніма працавалі 29 прадпрыемстваў, у тым ліку 4 тартакі, 2 паравыя млыны, 2 фабрыкі хустак, 2 вялікія і 5 меншых гарбарняў, 3 фабрыкі фіранак, 2 фабрыкі цвікоў, 2 фабрыкі дражджэй, 2 цагельні, фабрыка машын і сельскагаспадарчага інвентару, 2 фабрыкі запалак, фабрыка пергамену і мыла. На гэтых прадпрыемствах працавалі каля 4 тысяч рабочых.

Калі Слонім апынуўся пад Польшчай, на ўсіх прадпрыемствах Слоніма ў 1933–1934 гадах было занята толькі каля 450 рабочых, а ў 1938 годзе — каля 900 чалавек. У 1933 годзе там працавалі 6 тартакоў, 12 невялічкіх гарбарняў, 1 мылаварня, 1 фабрыка свечак, 2 фабрыкі, якія выраблялі алей, 4 кафельныя заводзікі, 3 цагельні, 4 бе-

тонныя цэхі, 2 вінаробчыя заводы, 3 прадпрыемствы, якія выпускалі ліманад і газіраваную ваду, трыкатажная фабрыка, 5 млыноў, воўнапрадзільная фабрыка, 2 воўначасальні і кардонна-папяровая фабрыка ў Альбярціне.

Найбольшае развіццё на тэрыторыі Слонімскага павета ў 1930-х гадах атрымала лесапрамысловая галіна. Гэтым промыслам займаліся 32 фірмы, якія высякалі, збывалі і перапрацоўвалі лес. Каля 70% слонімскага лесу ішло за межы Слонімшчыны — у Францыю, Англію, Германію. Астатнія 30% рэалізоўваліся на мясцовым рынку па даволі высокаму кошту. На лесанарыхтоўках і тартаках працавалі малазямельныя сяляне, для якіх гэта быў асноўны заробак.



Касцёл Святога Андрэя, 1916 г.

Хх

## Храмы

Слонім — горад храмаў. І хоць стагоддзі і войны знішчалі многія храмы горада над Шчарай, але ніколі Слонім не заставаўся без іх. У XVII–XIX стагоддзях у Слоніме былі знішчаны і страчаны назаўсёды касцёл Божага Цела і лютэранскі кляштар (1635), касцёл езуітаў (1840), касцёл піяраў, касцёл Святога Міхала Архангела і кляштар дамініканаў (1680), кляштар марыявітак (1743) і мячэць (1804).



Скульптура Святога Андрэя перад касцёлам Святога Андрэя ў Слоніме






Спаса-Праабражэнскі сабор сёння

Але сёння Слонім таксама ўпрыгожваюць праваслаўныя храмы — Свята-Троіцкі сабор, Спаса-Праабражэнскі сабор, храм Афанасія Брэсцкага, каталіцкія храмы — касцёл Святога Андрэя, касцёл бернардзінак, касцёл Каралевы Міру. Захавалася сінагога на Школьнай вуліцы, пабудаваная ў 1642 годзе, ёсць і мячэць. Пра некаторыя слонімскія храмы хочацца распавесці больш.

Свята-Троіцкі сабор — помнік архітэктуры барока. Раней гэта былі касцёл і кляштар бернардзінцаў, пабудаваныя ў 1639–1645 гадах. У 1866 годзе касцёл пераабсталявалі пад Троіцкую праваслаўную царкву (цяпер Троіцкі сабор). З паўднёвага боку ад сабора знаходзіцца кляштар — двухпавярховы мураваны будынак, глухія сцены якога прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, аздоблены пілястрамі і міжпаверхавай цягай. У калідорах і памяшканнях захаваліся крыжовыя і цыліндрычныя скляпенні.

У 1749 годзе быў пабудаваны жылы корпус кляштара, які з цягам часу рэканструявалі пад духоўнае вучылішча. Да Другой сусветнай вайны гэты корпус выкарыстоўваўся як адміністрацыйны будынак. Цяпер у ім месціцца інтэрнат Слонімскага медыцынскага каледжа.

Касцёл і кляштар бернардзінак на Першамайскай вуліцы — помнік архітэктуры барока і ракако. Пабудаваны ў другой палове XVII – другой палове XVIII стагоддзя з цэглы. Але ў 1790 годзе касцёл быў пашкоджаны пажарам. Праўда, праз тры гады яго аднавілі.

Касцёл Святога Андрэя на плошчы Льва Сапегі — помнік архітэкту-

 Спаса-Праабражэнскі сабор у Слоніме. Пачатак XX ст.



ры позняга барока. Пабудаваны ён быў у 1775 годзе з цэглы, а рэстаўрыраваны пасля Першай сусветнай вайны. Пры саветах у касцёле знаходзіўся склад солі. І помнік ледзь не загінуў. У 1990-я гады яго перадалі вернікам, якія касцёл адрэстаўрыравалі. І цяпер ён з'яўляецца прыгажосцю Слоніма.

Слонімская сінагога — помнік архітэктуры барока. Яна была пабудавана ў 1642 годзе, недалёка ад рынку. Пасля Другой сусветнай вайны сінагога выкарыстоўвалася пад склады. Цяпер помнік архітэктуры накрыты, але пустуе і паціху знішчаецца.

Спаса-Праабражэнскі сабор у перыяд хрушчоўскіх ганенняў, у 1963 годзе, быў узарваны і поўнасцю знішчаны. На месцы яго насупраць гасцініцы «Шчара» стаяў піўны павільён «Вясна», куды забягалі, ідучы з працы, слонімцы папіць піва. У 1994 годзе на месцы ўзарванага храма пачалося будаўніцтва велічнага сабора. Цяпер ён пабудаваны і працуе для вернікаў.

# Цц

## Ціхан Іван

Наш зямляк, беларускі атлет, кідальнік молата, трохразовы чэмпіён свету (2003, 2005, 2007), сярэбраны прызёр Летніх Алімпійскіх гульняў у Афінах (2004) заслужаны майстар спорту Беларусі Іван Ціхан нарадзіўся ў вёсцы Глоўсевічы ў 1976 годзе.

Першы раз Іван Ціхан стаў чэмпіёнам свету ў кіданні молата ў жніўні 2003 года на чэмпіянаце свету ў Парыжы, кінуўшы молат на адлегласць 83 метры 3 сантыметры.



Іван Ціхан

У 2005 годзе ў Хельсінкі глоўсевіцкі юнак заваяваў першы залаты медаль для Беларусі. Іван Ціхан устанавіў новы рэкорд чэмпіянатаў свету, кінуўшы молат на 83,89 м.

Іван Ціхан — чэмпіён Беларусі (2005). На гэтым чэмпіянаце Беларусі ён устанавіў нацыянальны рэкорд Беларусі — 86,73 м, што ўсяго на адзін сантыметр менш за сусветны рэкорд савецкага атлета Юрыя Сядых (1986). На Алімпійскіх гульнях у Афінах Іван Ціхан атрымаў сярэбраны медаль.

У 2006 годзе ў Гётэборгу наш спартсмен выйграў еўрапейскае першынства, а ў 2007 годзе на чэмпіянаце свету ў Осацы з вынікам 83,63 м трэці раз стаў чэмпіёнам свету.

На Летніх Алімпійскіх гульнях у Пекіне (2008) Іван Ціхан паказаў трэці вынік і быў узнагароджаны бронзавым медалём. Аднак допінг-пробы Івана Ціхана і сярэбранага прызёра спаборніцтваў Вадзіма Дзевятоўскага, якія яны здалі 17 жніўня 2008 года адразу пасля алімпійскага фіналу, далі станоўчы вынік на тэстастэрон. Ціхан і Дзевятоўскі за прымяненне допінгу былі дыскваліфікаваныя, а заваяваныя імі медалі перададзены іншым спартсменам. Гэта рашэнне было аб’яўлена 11 снежня, пасля пасяджэння выканкама Міжнароднага алімпійскага камітэта. Аднак 10 чэрвеня 2010 года Спартыўны арбітражны суд (CAS) вынес рашэнне аб тым, што допінг-пробы І. Ціхана і В. Дзевятоўскага былі ўзятыя з парушэннем правілаў. Такім чынам, спартсменам вернуты тытулы прызёраў Алімпіяды-2008.

У 2012 годзе Іван Ціхан быў лідарам сусветнага сезона ў кіданні молата. Аднак ён не змог прыняць

удзел у Алімпіядзе ў Лондане. Віной гэтаму стала рашэнне Міжнароднай федэрацыі лёгкай атлетыкі (IAAФ) аб адхіленні атлета з-за станоўчых допінг-пробаў, узятых у яго на гульнях-2004 у Афінах і на чэмпіянаце свету — 2005 у Хельсінкі. Паводле рашэння МАК допінг-пробы захоўваюцца 8 гадоў, на працягу якіх яны могуць быць пераправерaны з выкарыстаннем новых методык выяўлення забароненых прэпаратаў. Тэрмін захоўвання матэрыялаў, узятых у Афінах-2004, заканчваўся 29 жніўня. Іван Ціхан на гульнях у Афінах стаў сярэбраным прызёрам. Вестка пра яго станоўчы тэст і запрашэнне на ўскрыццё пробы «B» прыйшлі ў Мінск у сярэдзіне ліпеня. 24 ліпеня ў Лазане аналізы 2004 і 2005 гадоў зноў аказаліся станоўчымі.

Нягледзячы на гэтыя розныя непаразуменні, мы сёння ганарымся нашым земляком, славутым спартсменам Іванам Ціханам, які з'яўляецца ганаровым грамадзянінам Слоніма.

Паспяхова выступалі на Алімпійскіх гульнях і іншыя нашы землякі. Чэмпіёнам XXI Алімпійскіх гульняў у Манрэалі па веславанню на байдарцы-двойцы ў пары з С. Нагорным з Украіны на дыстанцыі 500 метраў стаў слонімец Уладзімір Раманоўскі. А Андрэй Цівончык з Жыровічаў быў бронзавым прызёрам па скачках у вышыню з шастом на XXVI Алімпійскіх гульнях у г. Атланта ў 1996 годзе.



## Чыгунка

У 1886 годзе праз Слонім прайшла першая лінія чыгункі Баранавічы–Слонім–Беласток–Варшава. У Слоніме тады была адкрыта і чыгуначная станцыя. А таксама з'явілася Вакзальная вуліца (яна і цяпер існуе), якая праходзіла ўздоўж чыгункі і злучала прывакзальную плошчу з шэрагам кварталаў жылой сядзібнай забудовы. Замест чыгуначнай станцыі ў 1922 годзе быў пабудаваны чыгуначны вакзал, які захаваўся да сённяшніх дзён. Такі самы вакзал, як і ў Слоніме, быў пабудаваны і ў Бельску на Беласточчыне (Польшча).

Гартаючы старыя падшыўкі газеты «Беларускі дзень» за 1928 год (газета выходзіла ў Вільні), знайшоў вельмі цікавую інфармацыю. У прыватнасці, паведамлялася пра тое, што ў першай палове XX стагоддзя планавалася будаўніцтва чыгункі Слонім–Навагрудак–Маладзечна. Усё будаўніцтва павінна каштаваць 49 мільёнаў польскіх злотых. А гэта на той час былі вельмі вялікія грошы.

Польскі ўрад на гэта будаўніцтва шукаў фундатараў. Напрыклад, спадар Савіч, што працаваў у фір-



Слонім. Чыгуначны вакзал. Сучасны здымак

ме, якой у 1928 годзе належала Налібоцкая пушча, паабяцаў навагрудскаму ваяводзе Бэчковічу выдаткаваць на будаўніцтва чыгункі 15 мільёнаў злотых.

20 траўня 1928 года адбылася нават спецыяльная сходка, прысвечаная будаўніцтву чыгункі Слонім–Навагрудак–Маладзечна. На ёй выступоўцы казалі, што думка наконт пабудовы гэтай чыгункі вялася даўно. Таму што дзвюх чыгунак, якія праходзілі праз Навагрудскае ваяводства, для патрэбаў гаспадарчых спраў не хапала. З існуючых чыгунак толькі адна ішла на захад, гэта значыць Стоўбцы–Баранавічы–Слонім. А чыгунка Баранавічы–Ліда–Вільня мела для Навагрудскага ваяводства накірунак толькі мясцовага значэння.

Паводле прапанаванага праекта, чыгунка ішла б з Маладзечна праз Івянец, Налібокі, Шчорсы, Навагрудак, дзе крыжавалася б з другой лініяй Ліда–Баранавічы, ішла б потым на Дзятлава, Казлоўшчыну і да Слоніма.

На вялікі жаль, у канцы 20-х гадоў XX стагоддзя чыгунка Слонім–Навагрудак–Маладзечна так і не з’явілася. І ў Казлоўшчыне, і ў Дзятлаве, і ў Навагрудку чыгункі няма да сённяшніх дзён, і, магчыма, ніколі яна не будзе пракладзена. Чыгункай сёння можна даехаць да нашага Слоніма з захаду на ўсход і з усходу на захад, а таксама да Навальні Дзятлаўскага раёна. Бо ў Наваельні чыгунка была пабудавана ажно ў 1884 годзе, яна праходзіць з Вільні на Лунінец.

# Шш

## Школы

Сістэма навучальных устаноў на Слонімшчыне мае шматвяковую і цікавую гісторыю. У Вялікім Княстве Літоўскім Слонімшчына была адным з рэгіёнаў, які меў дастаткова разгалінаваную сістэму навучальных устаноў. Розныя школы, калегіумы, вучылішчы працавалі ў Слоніме, Жыровічах і іншых мястэчках павета.

Сёння ў Слоніме функцыянуюць гімназія, ліцэй, школы № 2, 3, 4, 5, 7, 8, 9, 10. Слонімскі ліцэй (былая СШ № 1) быў заснаваны ў 1940 годзе і месціцца цяпер у былым кляштары бенедыкцінак, які ў 1920–1930-я гады займала польская настаўніцкая семінарыя. Падчас Другой сусветнай вайны ў будынку ліцэя была настаўніцкая семінарыя, якая рыхтавала педагогаў для беларускіх школ. Пасля вайны Слонімская СШ № 1 заўсёды лічылася беларускай, якую скончылі сотні мясцовых і сельскіх хлопчыкаў і дзяўчынак. І тыя, хто вучыўся ў СШ № 1, назаўсёды засталіся шчырымі беларусамі. У СШ № 1 у свой час вучыліся кандыдат філалагічных навук Іван Чыгрын, кандыдат мастацтвазнаўства Сцяпан Міско, скульптар Іван Міско, доктар філалагічных навук, прафесар Алег Лойка і многія-многія іншыя слонімцы, якія сталі гонарам нашай нацыі.

СШ № 8 г. Слоніма з музычным ухілам, а СШ № 2 мае музычна-харавы і агульнаэстэтычны ўхіл. Вучні гэтых школ шмат разоў станавіліся лаўрэатамі і дыпламантамі разнастайных рэспубліканскіх конкурсаў: «Усе мы родам з дзяцінства», «Зорная ростань», «Спяваем з аркестрам», «Масты надзей», «Новыя



Пасяджэнне гістарычнага гуртка ў СШ № 4 г. Слоніма



Сярэдняя школа № 9




Шаўрон

імёны», «Беларусь — мая песня» і іншых.

Калектыў СШ № 4 шмат увагі надае патрыятычнаму выхаванню вучняў, у СШ № 9 арганізаваны ваенна-патрыятычныя класы (кадэцкія), а ў СШ № 10 дзейнічаюць класы МНС.

Стабільна высокім (каля 60%) на працягу многіх гадоў з’яўляецца паказчык паступлення выпускнікоў слонімскіх школ у ВНУ Беларусі і іншых краін.

# Ээ

## Энка

Вялікі мікрараён Энка ў Слоніме з’явіўся ў 1991 годзе. І ўзнік ён не па добрай волі слонімцаў. Мікрараён на Косаўскім тракце будавала турэцкая фірма «Энка» на сродкі Германіі. Менавіта з Германіі ў гэты мікраraён прыехалі некалькі тысяч сем’яў вайскоўцаў. Новы мікраraён слонімцы так і пачалі называць — Энка.

Цяпер з тых вайскоўцаў мала засталося, адны пераехалі ў Расію, іншыя проста прадалі свае кватэры




Мемарыяльны знак воінам-інтэрнацыяналістам на Энцы

У мікрараёне Энка



ці абмянялі на іншыя гарады. Але шмат былых вайскоўцаў з іншых савецкіх рэспублік засталіся ў Слоніме назаўсёды.

Акрамя жылога сектару туркі ў мікрараёне пабудавалі школу, дзіцячы садок, магазін, рэстаран, бібліятэку, пошту і іншыя сацыяльныя аб'екты для гараджан.

У 2000 годзе ў мікрараёне Энка быў адкрыты памятны знак у гонар 55-годдзя Перамогі і воінаў-інтэрнацыяналістаў.

# Юю

## Юбілей

Юбілей — гэта святкаванне гадавіны чаго-небудзь, якой-небудзь падзеі або дзейнасці якой-небудзь асобы. Юбілей — гэта ўсё ж свята, прычым асаблівае свята. Юбілеі святкуюцца па «круглых датах», якія заканчваюцца на 0 ці 5. Напрыклад, 50 гадоў — пяцідзесяцігоддзе, 75 гадоў — сямідзесяціпяцігоддзе, 100 гадоў — стагоддзе і г. д.

У верасні 2002 года Слонім упершыню адзначыў юбілей — 750-годдзе першага ўпамінання горада ў Іпацьеўскім летапісе. З гэтай нагоды ў горадзе над Шчарай прайшло вялікае гарадское свята. У 2013 годзе спаўняецца 150 гадоў з таго часу, калі адбылася Мілавідская бітва паміж паўстанцамі Кастуся Каліноўскага і царскімі войскамі. Таксама вялікі юбілей.

Вельмі часта ў Слоніме на ўзроўні горада і раёна адзначаюцца юбілеі гарадскіх прадпрыемстваў, на-



На юбілеі і святы слонімцы выходзяць са сваім гербам і сцягам



Пажарная ахова Слоніма святкуе юбілей. 1907 г.

вучальных устаноў і ўстаноў культуры. А вось юбілеі знакамітых слонімцаў у Слоніме адзначаюцца рэдка. У 2013 годзе, напрыклад, будуць юбілеі нашых землякоў — беларускага мовазнаўца Івана Бялькевіча (130 гадоў з дня нараджэння), рэлігійнага дзеяча Лукаша Дзекуць-Малея (125 гадоў з дня нараджэння), мастака Міколы Бушчыка (65 гадоў з дня нараджэння), энцыклапедыста і фальклрыста Янкі Саламевіча (75 гадоў з дня нараджэння), генерал-палкоўніка Уладзіслава Корчыца (120 гадоў з дня нараджэння), а так-



Парад у Слоніме. 1939 г.




Юбілей Слонімскага водаправода

сама спаўняецца 400 гадоў, як Ян Мялешка зацвердзіў у Жыровічах Успенскі мужчынскі кляштар базыльянаў, 445 гадоў таму назад у Слоніме згодна з прывілеем караля і вялікага князя Жыгімонта II Аўгуста пачалі праводзіцца два штогадовыя кірмашы, 535 гадоў таму назад упершыню ўпамінаецца мястэчка Азярніца ў пісьмовых крыніцах і г. д.

# Яя

## Яўрэі

У Слоніме заўсёды жылі яўрэі. У канцы XIX стагоддзя яўрэі складалі 72,5% усяго насельніцтва Слоніма. Яны гандлявалі лесам, былі ўладальнікамі паравых млыноў і дробнай тэкстыльнай вытворчасці.

Да пачатку Другой сусветнай вайны яўрэяў у Слоніме налічвалася 27 тысяч чалавек. У верасні 1939 года колькасць яўрэяў павялічылася за кошт бежанцаў з Польшчы, якая была акупіравана нацысцкай Германіяй. Пасля ўстанаўлення савецкай улады ў Слоніме пачалося планамернае знішчэнне яўрэйскіх абшчын і рэлігійных устаноў, палітычных арганізацый. 12 красавіка 1940 года НКУС дэпартавала ў Сібір каля тысячы яўрэяў.

25 чэрвеня 1941 года Слонім занялі германскія войскі. 17 ліпеня гэтага ж года немцы арыштавалі 1200 мужчын-яўрэяў і расстралялі на ўскраіне горада. 14 лістапада 1941 года нацысты знішчылі каля 9 тысяч яўрэяў са Слоніма і з вёсак Слонімскага раёна. У снежні 1941 года немцамі было створана гета, якое займала вялікую плошчу, прылягаючую да ракі Шчара і канала Агінскага. З 29 чэрвеня да 15 ліпеня 1942 года тут былі знішчаны яшчэ каля 9 тысяч яўрэяў. Тады гітлераўцы акружылі гета і падпалілі яго, а хто спрабаваў уцячы — стралялі. 20 жніўня 1942 года фашысты расстралялі яшчэ 400 чалавек, а ў снежні 1942 года была здзейснена апошняя «акцыя», пасля якой слонімскае гета апусцела.



Вазы каля слонімскай сінагогі. Пачатак XX ст.

Мемарыяльны знак на былых яўрэйскіх могілках



Яўрэйскія могілкі ў Слоніме падчас Першай сусветнай вайны



Масавыя расстрэлы мясцовых жыхароў, у тым ліку і яўрэяў, адбываліся і недалёка ад Слоніма на Пятралевіцкай гары. Заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея Язэп Стаброўскі перапісаў надпісы на табліцах і крыжах, што былі на Пятралевіцкай гары. Вось змест некаторых з іх: «У гэтай брацкай магіле пакояцца звыш адной тысячы яўрэяў, грамадзян горада Слоніма, закатаваных нямецкімі вылюдкамі 20 жніўня 1942 года».



Яўрэйскія дзеці ў Слоніме, 1922 г.

За 1 км на паўднёвы ўсход ад Слоніма каля шашы на Баранавічы ў 8 магілах пахаваны каля 30 тысяч чалавек, якіх расстралялі гітлераўцы. Вельмі шмат тут было расстраляна яўрэяў, якіх прывозілі не толькі са Слоніма і мясцовых вёсак, але і з Польшчы, Літвы, Украіны. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1967 годзе пастаўлена стэла. Імёны загінуўшых не ўстаноўлены. Гэта месца называецца Чапялёўскія палі.

У лесе за 5 км ад Слоніма, справа ад дарогі ў вёску Дзераўная, пахаваны 2 тысячы жыхароў Слоніма, якіх у 1943 годзе расстралялі гітлераўцы. Большасць з іх людзі яўрэйскай нацыянальнасці. Імёны загінуўшых не ўстаноўлены.

Напачатку верасня 1942 года ў Слоніме засталося каля 300 асоб яўрэйскай нацыянальнасці, якіх праз тры месяцы таксама знішчылі. Па сведчанні Слонімскага гебітскамісара Эрэна, на працягу першых 1,5 года нямецкай акупацыі на Слонімшчыне было знішчана каля 25 тысяч яўрэяў».

Пасля Другой сусветнай вайны ў 1945 годзе 80 яўрэяў вярнуліся ў Слонім. Але і іх з кожным годам у горадзе пражывала і пражывае ўсё менш і менш.

Затое слонімскіх яўрэяў вельмі шмат жыве сёння ў Ізраілі, ЗША, Францыі, Англіі, Канадзе, Польшчы, Расіі. Многія з іх сталі палітыкамі, прадпрымальнікамі, дзеячамі навукі і культуры. Штогод летам у Слонім прыязджаюць шмат былых слонімскіх яўрэяў ці іх дзеці і ўнукі, каб пакланіцца роднаму Слоніму.

## Кнігі пра Слонімшчыну


Ад Я да Я. Мінск, 2003.

Ад Я да Я. Слонім, 2001.

Арочка Мікола. Валянцін Таўлай. Мінск, 1969.

Афанасік Васіль. Горыч 41-га. Слонім, 2009.

Данілюк Барыс. Азіраючыся расой выетымі вачыма. Мінск, 2012.

Дземідовіч Надзея. Век так ня будзе. Мінск, 2002.

Жировичский Свято-Успенский монастырь. Москва, 1999.

Жукоўскі А.С. Назаві яго імем. Гродна, 1990.

Жукоўскі А.С. Школьны музей рэвалюцыйнай і баявой славы. Мінск, 1971.

Жуковский А.С. Школьный музей революционной и боевой славы. Минск, 1973.

Жыццё і творчасць Анатоля Іверса. Мінск, 2012.

Золак над Шчарай. Слонім, 1994.

Іверс Анатоль. З глыбінь жыцця. Мінск, 2012.

Караткевіч В.Б., Кулагін А.М. Помнікі Слоніма. Мінск, 1983.

Лепко Елена. Есть у города слава гордая. Слоним, 2002.

Мелешко В. Слоним. Минск, 1962.

Милаковский М. Описание города Слонима. Гродно, 1891.

Пад гукі паланэза. Слонім, 2005.

Памяць. Слонімскі раён. Мінск, 2004.

Паэтычная Слонімшчына. Слонім, 2000.

Ракевіч Мікалай. Радзімы кут мой. Баранавічы, 2009.

Ракуть В.В., Ракуть Т.П. История агрогородка «Новодевятковичи» с древнейших времён до 2010 года. Слоним, 2012.

Рылко М.И., Шпыркова И.Г. Слоним. Минск, 1981.

Слонім. Фотаальбом. Мінск, 2008.

Слонім на старых паштоўках. Слонім, 2002.

Слонімшчына вачыма навукоўцаў і краязнаўцаў. Слонім, 2002.

Супрун Васіль. Дзеі над Шчарай. Слонім, 2000.

Супрун Васіль. 100 пытанняў і адказаў з гісторыі Слонімшчыны. Слонім, 2002.

Супрун Васіль. Штрыхі з успамінаў. Слонім, 2003.




Сяргейчык Іван. Сцяжынка школьная мая. Слонім, 2005.

Талерчык Аляксандр. Парэчча. Гродна, 2002.

Цеханавецкі Анджэй. Міхал Казімір Агінскі і яго «сядзіба музаў» у Слоніме. Мінск, 2006.

Чыгрын Сяргей. Альбярцін. Мінск, 2011.

Чыгрын Сяргей. Жыў роднай песняй. Мінск, 2010.

Чыгрын Сяргей. Мастак Антон Карніцкі. Мінск, 2009.

Чыгрын Сяргей. Родам са Слонімшчыны. Слонім; Мінск, 2003.

Чыгрын Сяргей. Слонімскія падмуркі. Мінск, 2012.

Чыгрын Сяргей. Тэатр у Слоніме. Слонім, 2008.

Чыгрын Сяргей. У пошуках слонімскіх скарбаў. Мінск, 2007.

Чыгрын Сяргей. Чамяры і чамяроўцы. Мінск, 2006.

Чыгрын Сяргей. Янка Купала і Слонімшчына. Слонім, 1993.

***

Aleksandrowicz Bronisław. Z przeszłości Słonimia i Ziemi Słonimskiej. Słonim, 1939.

Charkiewicz Walerian. Żyrowice — łask krynice. Słonim, 1930.

Czarnocki Konrad. Historie o Mieleszkach. Warszawa, 2008.

Dyczkowski Andrzej. Słonim: historia i zabytki. Warszawa, 1992.

Goldberg Godel. Zarys dziejów miasta Słonimia z ilustracjami i planem. Słonim, 1934.

Historia 79 Pułku Piechoty Strzelców Słonimskich imienia hetmana Lwa Sapiehy. Warszawa, 1996.

Lorentz Stanisław. Wycieczki słonimskie. Słonim, 1933.

Słonim — odsłony. Warszawa, 2002.

Sosiński Tadeusz. Słonim — zarys dziejów. Sulejówek, 1996.

## Змест

